● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

3 снежня 1996 г. аўторак, № 280 (23083)

# ЗВЯЗДА



*ХОДЗЯЦЬ ЧУТКІ, ШТО...*

## ...ПЕНСІЁННЫ ЎЗРОСТ БУДЗЕ ПАВЯЛІЧАНЫ

**Пагалоска аб тым, што работнікаў будуць адпраўляць на пенсіі крыху пазней (мужчын -- у 65 гадоў, а жанчын -- у 60 гадоў), булараджыла жыхароў рэспублікі ўжо даўно. Чуткі набіралі сілу, і таму, каб іх развеяць, карэспандэнту «Звязды» прыйшлося звярнуцца з пытаннямі ў самыя што ні ёсць кампетэнтныя інстанцыі.**

Памочнік міністра працы Аляксандр Румак адказаў нам, што такія чуткі нараджаюцца літаральна кожны год, не маючы пад сабой пры гэтым ніякай падставы. «Узроставы цэнз выхаду на пенсію калі і будзе пераглядацца, то гэта адбудзецца далёка не заўтра, ва ўсякім разе -- не ў наступным годзе», -- сказаў Аляксандр Румак.

Цалкам развеяла каляпенсіённыя чуткі і міністр па сацыяльнай абароне насельніцтва Вольга Даргель. Цяпер, паводле яе слоў, адбываецца рэфарміраванне пенсіённага забеспячэння, распрацоўваецца канцэпцыя па больш дыферэнцыраванаму налічэнню пенсій, зыходзячы з заробтнай платы да выхаду на пенсію і стажу работы. Да таго ж, з павелічэннем з пачатку новага года мінімальнай заробтнай платы павялічацца і пенсіі ўжо ў снежні ў сярэднім на 9 працэнтаў. У выпадку замарожвання МЗП пастунова адбывалася і зблізжнне

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**

## АДНЫМ СКАЗАМ

У Віцебску з пачатку года супрацоўнікамі міліцыі **канфіскавана** ў валютчыкаў каля 5000 USD, 4,5 тысячы DM, 15 мільёнаў UVR, 160 мільёнаў BYB.

**Неразведаныя запасы нафты** ў рэспубліцы, паводле папярэдніх даных, складаюць да 159 мільёнаў тон.

Па розных ацэнках, **на руках у нашага насельніцтва** знаходзіцца ад 1 да 2,5 мільярда долараў.

**Колькасць** захварэўшых на рак і іншыя **злаякасныя пухліны** расце: тэмпы прыросту з году ў год вагаюцца ад 1,5 да 5 працэнтаў — па рэспубліцы колькасць такіх хворых дасягае 130 тысяч.

Індыйскі часопіс «Індыя тудэй» сцвярджае, што **самым старэйшым жыхаром Зямлі** з'яўляецца Наранян Чаўдхары — жыхар невялікага непальскага пасёлка Тхару, якому споўнуўся 141 год.

*Аляксандр ЛУКАШЭНКА:*

## «Беларусь будзе заставацца надзейным партнёрам у справядлівым вырашэнні усіх праблем еўрапейскай бяспекі»

**2 снежня 1996 года ў сталіцы Партугаліі пачала сваю работу сустрэча на ўзроўні кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў 54 краін — удзельніц Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе (АБСЕ). Акрамя дзяржаў — членаў АБСЕ у ёй прымаюць удзел кіраўнікі краін Міжземнаморскага рэгіёна, Японіі і Паўднёвай Карэі.**

ФРАГМЕНТЫ З ВЫСТУПЛЕННЯ ПРЭЗІДЭНТА БЕЛАРУСІ А. ЛУКАШЭНКІ НА СУСТРЭЧЫ НА ВЫШЭЙШЫМ УЗРОЎНІ АРГАНІЗАЦЫІ ПА БЯСПЕЦЫ І СУПРАЦОЎНІЦТВУ Ў ЕЎРОПЕ (АБСЕ)

### ...Аб крытэрыях сістэмы бяспекі Еўропы ў XXI стагоддзі

Па нашаму перакананню, у XXI стагоддзе Еўропа ўвойдзе мірнай толькі ў тым выпадку, калі сістэма бяспекі будзе адпавядаць наступным крытэрыям:

Па-першае, яна павінна эфектыўна процістаяць як старым, так і новым пагрозам бяспецы. Я ў першую чаргу маю на ўвазе такія пагрозы, як рэгіянальныя канфлікты, тэрарызм, арганізаваная злачыннасць і інш.

Па-другое, еўрапейская бяспека павінна быць непадзельнай і забяспечваць справядлівы ўлік інтарэсаў усіх дзяржаў кантынента. Усе краіны Еўропы павінны не толькі фармальна, але і на справе мець роўныя правы пры прыняцці рашэнняў, якія закранаюць лёс кантынента.

Па-трэцяе, мы павінны выбраць такую мадэль бяспекі, якая б аб'ядноўвала народы, а не ствараля б пагрозу новага расколу кантынента.

Мы лічым, што сістэма, якая адпавядае гэтым крытэрыям, магла б скласціся на аснове Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе (АБСЕ).

У яе рамках маглі б знайсці эфектыўнае прымяненне ўжо існуючыя структуры, у тым ліку і Арганізацыя Паўночнаатлантычнага Дагавора. Мы рэальна ацэньваем магчымасці гэтай структуры па падтрыманню міру. Удзельнічаючы ў праграме «Партнёрства дзеля міру», мы гатовы і надалей супрацоўнічаць з НАТО ў пытаннях забеспячэння міру.

### ...Аб ролі НАТО ў новай мадэлі еўрапейскай бяспекі

Але мы лічым недальнабачным рабіць НАТО галоўным звяном сістэмы еўрапейскай бяспекі.

Тая мадэль еўрапейскай бяспекі, сарцавіну якой састаўляла б НАТО, першапачаткова, па сваёй прыродзе не зможа забяспечыць роўны ўлік інтарэсаў усіх дзяржаў Еўропы.

Што б мы цяпер ні гаварылі, краіны кантынента былі б падзелены на дзве няроўныя і нераўнапраўныя групы: члены НАТО і дзяржавы, якія не ўваходзяць у гэты блок.

«Халодная вайна» скончылася. Сёння няма Варшаўскага Дагавора і Савецкага Саюза, якія процістаялі блоку НАТО. На Усходзе кантынента няма ніводнай дзяржавы, ад якой можа зыходзіць пагроза агрэсіі.

У гэтых умовах трэба зрабіць усё, каб пазбегнуць крокаў, здольных выклікаць новы раскол Еўропы, пасеяць узаемны недавер і падазронасць.

Мы гаворым аб гэтым, магчыма, гучней за іншых таму, што найбольш пацярпеўшай у выніку новага расколу Еўропы была б Беларусь, па межах якой пайшла б лінія новага разлому. Менавіта таму ў нас асабліва глыбокі неспакой выклікаюць планы хуткага пашырэння НАТО на Усход.

Важна, аднак, мець на ўвазе, што ў гэтым выпадку ўвогуле не будзе пераможцаў. Сістэма бяспекі, заснавана на дамінаванні пэўнай групы краін, не можа быць моцнай і даўгавечнай.

У свеце гэтага сістэма агульнаеўрапейскай бяспекі, касцяк якой складае АБСЕ, уяўляецца нам найбольш аптымальнай. Мы лічым, што ўжо сёння АБСЕ магла б узяць на сябе ролю каардынатара еўрапейскіх і еўраатлантычных інстытутаў у справе забеспячэння міру і стабільнасці на кантыненце.

### ...Аб месцы Беларусі ў справе забеспячэння бяспекі ў Еўропе

Мая маладая краіна не толькі на словах, але і на справе зрабіла і робіць рэальныя і вельмі значныя крокі, якія садзейнічаюць забеспячэнню бяспекі кантынента.

Паводле Дагавора аб звычайных узбраеннях Беларусь знішчыла больш танкаў, баявых машын і іншай ваеннай тэхнікі, чым Вялікабрытанія, Францыя і ЗША разам узятыя. Хачу падкрэсліць, што гэта была тэхніка, атрыманая ў спадчыну з часоў «халоднай вайны».

Беларусь першая добраахвотна і без усялякіх умоў і таргоў адмовілася быць уласніцай размешчанага на яе тэрыторыі вялікага ядзернага патэнцыялу.

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**



**Усмешка дамы.** Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

*КРЫК ДУШЫ*

## ПЛАЦІЦЬ ЗА ТОЕ, ШТО ХОДЗІШ ПА СВАЕЙ ЗЯМЛІ?..

**Дарагая рэдакцыя «Звязды», я ваш падпісчык. У нашым саўгасе «Дварэц» на адным месцы адпрацаваў 47 гадоў, жонка — 32. Яна — інвалід другой групы, я, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, — трэцяй.**

У нашай вёсцы Бірчанская Слабада былі ферма, канюшня, а як пачалася перабудова, іх знеслі і коней забралі на цэнтральную сядзібу саўгаса. Мы жывём ад яе за 7 кіламетраў, у нашу вёску няма належнай дарогі, а таксама ў нас няма ні тэлефона, ні магазіна. Праўда, летам аўтакрама падвозіць хлеб, а зімой, як была ферма, нават дырэктар да нас дабіраўся на трактары «Кіравец».

Мы — людзі тут усе састарэлыя, пенсіянеры. Калі падалі скаргу на тэлебачанне, каб вярнулі нашых коней, што забралі ў цэнтр саўгаса, то дырэктар вырашыў іх нам прадаць. І мы купілі: без коней у аддаленай вёсцы, у баку ад добрай дарогі жыць нельга. Увосень і зімой запрагаем іх і едзем па хлеб да аўтакрамы за 3 кіламетры. І прысядзібныя ўчасткі трэба апрацаваць.

Цяпер, як стаў намеснікам дырэктара былы старшыня сельсавета Анатоль Васільевіч Палянкоў, ён узяў на ўлік нашых коней, каб мы плацілі з пенсіі за пашу. А можа, не за выпас іх, а каб кіраўніцтву гаспадаркі было з чаго атрымліваць зарплату? Дык мы ж адпрацавалі ў сваім саўгасе не адзін дзесятак гадоў! І цяпер даводзіцца плаціць з пенсіі за тое, што жывём на зямлі, за якую пралівалі сваю кроў, аддалі ёй сілы і здароўе.

Наколькі ведаю, у суседнім калгасе «Гігант» Бабруйскага раёна Магілёўскай вобласці такіх людзей абслугоўваюць па льготах. Кожны год ім даюць бясплатна машыну для прывозу палива. У нас жа, як бачыце, наадварот. Былым брыгадзірам, калі яны пайшлі на пенсію, то выдалі бясплатна коней, павозку і вупраж, таму што яны былі бліжэй да начальства. А з нас, простых рабочых, дзяруць скуру: плаці або не хадзі па зямлі.

Буду ўдзячны, калі надрукуеце гэта пісьмо.

**Анатоль КАНОНЧЫК.**
Рагачоўскі раён.

### АД АДДЗЕЛА ПІСЬМАЎ

Як паведамілі з Рагачоўскага райвыканкома, паводле слоў дырэктара саўгаса «Дварэц» Яўгена Дзмітрыевіча Раманенкі, сапраўды з аўтара пісьма за асабістага каня за пашавы сезон бяруць плату, якая складае 85 тысяч рублёў. Такую суму даводзіцца выкладваць у гаспадарцы кожнаму, хто мае ўласную сіўку-бурку, у тым ліку інвалідам і пенсіянерам. А вось сям'я Жураўлёвых, якой конік выдзелены нібыта для калектыўных паездак вяскоўцаў у краму па хлеб, за яго выпас не плаціць ні капейкі.

Больш нічога ў райвыканкоме сказаць не маглі. Затое ўзнікае слушнае пытанне: няўжо ў саўгасе «Дварэц» сапраўды такім чынам вырашылі папраўляць фінансавае становішча, калі нават ветэранаў працы, састарэлых людзей прымушаюць з пенсіі плаціць за выкарыстанне зямлі, якой гэтыя людзі аддалі ўсё сваё здароўе і жыццё?

У такім разе, як справядліва абураецца Анатоль Сямёнавіч Канончык, сапраўды сорамна і крыўдна.

*НАДВОР'Е*

## НА ВЯЛІКІЯ СНЕЖНЫЯ ГУРБЫ Ў СНЕЖНІ РАЗЛІЧВАЦЬ НЕ ПРЫХОДЗІЦЦА

**Натуральна, пачатак снежня нас усіх здзівіў. Першы снег адразу ж растаў. А замест маразоў зачасцілі дажджы, прычым, маркуючы па ўсім, надоўга. Многім, калі быць шчырымі, такое надвор'е не даспадобы. Таму і хвалююцца, што ж будзе далей. Высветліць гэта карэспандэнт «Звязды» Ігар Грышын вырашыў у Белгідрамеце. Аб прагнозах на снежань расказвае спецыяліст Белгідрамета Вера ЧЫЖЫК.**

— Снежань — першы зімовы месяц: усё ніжэй ходзіць сонца, усё цямнейшыя дні. Ён самы пахмурны ў годзе. У Беларусі ў гэтым месяцы поўнасцю пахмурных дзён бывае ад 25 да 27, а гэта, напрыклад, у 2,5 раза больш, чым у Ялце. І хоць снежань адкрывае зіму, у першай палове ён яшчэ захоўвае рысы пераходнага сезона. Вось чаму ў снежні нярэдканазіраюцца крайне няўстойлівае надвор'е і даволі рэзкія перапады тэмпературы. Даволі часта першая пацідзёнка і нават першая дэкада месяца бываюць вельмі цёплымі. Адлігі для гэтага часу — з'ява звычайная і здараюцца яны, па сярэдніх даных, на працягу 12—19 дзён. Яскравым прыкладам таму можа служыць і пачатак сёлетняга снежня. Пахаладанне больш за ўсё верагоднае ў другой палове месяца.

Сярэдняя за месяц тэмпература, або так званая «норма», вагаецца ад 5-6 градусаў марозу ў Віцебскай вобласці да мінус 2-3 градусаў на паўднёвым захадзе Брэсцкай. Аднак часам гэта нармальная тэмпература можа адхіляцца ў бок холаду, калі ветры «падуюць» з суровай Арктыкі, або ў бок цяпла, калі «задыхае» цёплая і вільготная Атлантыка. Звычайная для гэтага месяца начная тэмпература — 4—8 градусаў марозу, дзённая — ад трох да мінус 4. Але ж даволі часта не абыходзіцца без выключэнняў. Прыкладам суровых маразоў можа служыць снежань 1959 года, калі ўжо ў самым пачатку месяца было ад 30 да 35 градусаў марозу і мінус 23—24 градусы — на поўдні рэспублікі. Такія моцныя маразы для Беларусі з'ява крайне рэдкая і паўтараецца прыблізна адзін раз у 50 гадоў. За апошнія ж гады ў снежні часцей бывае цяплей, чым звычайна. Так, у 1982 і 1993 гадах колькасць дзён з адлігай дасягала 20—25, а дзённыя «максімумы» нагадвалі хутчэй раннюю вясну з 6—10 градусамі цяпла. Ападкаў жа ў снежні выпадае ад 35 да 55 мм. Гэта зноў-такі «норма». Аднак, калі ўладараць антыцыклоны, то яны могуць скарачаць «норму» ўсяго да 2—8 мм, калі ж чыста вільготныя цыклоны, то сума ападкаў можа ўзрасці ўдвая і нават утрая.

Якім жа, як мяркуецца, будзе сёлетні снежань? Паводле прагнозу сіноптыкаў, па тэмпературнаму рэжыму ён чакаецца на градус цяплей, чым звычайна: сярэдняя тэмпература прагназіруецца ад 1 да 4 градусаў марозу. Гэтыя значэнні блізкія да нормы. А вось на вялікія снежныя гурбы, як лічаць сіноптыкі, разлічваць не прыходзіцца: колькасць ападкаў у снежні мяркуецца меншая за тую, што выпадае звычайна ў гэтым месяцы.

### НЕ ЎПУСЦІЦЕ СВОЙ ШАНЦ!

Той, хто не паспеў падпісацца на «Звязду» на І квартал ці паўгоддзе, мае магчымасць выправіць становішча: **падпіска працягваецца да 10 снежня.** Спяшайцеся — вы не толькі будзеце мець штодзень самую свежую інфармацыю, але і зможаце ўдзельнічаць у звяздоўскай латарэі.

Напамінаем, што кошт падпіскі на першае паўгоддзе складае **83.400 рублёў**, на квартал — **41.700 рублёў.**

**Будзем разам!**

# ДАСЛОЎНА



«ПРАМАЯ ЛІНІЯ»

## Георгій КУЗНЯЦОЎ:

# «Зямлі патрэбен гаспадар, а не ўладальнік»

**Сёння мы ўжо ведаем вынікі галасавання на рэферэндуме па зямельнаму пытанню. А напярэдадні акта ўсенароднага волевыяўлення рэдакцыя «Звязды» праводзіла «прамую лінію» са старшынёй Камітэта па зямельных рэсурсах Георгіем Кузняцовым. І чаканні спраўдзіліся: вялікая колькасць тэлефонных званкоў была на тэму неабмежаванага продажу зямлі.**

**— Добры дзень, Георгій Іванавіч. Вас турбуе Сяргей Клюеў. Як асабіста вы ставіцеся да неабмежаванага продажу зямлі?**

— Я супраць шырокага продажу зямель сельскагаспадарчага прызначэння. Раней выступаў за. Але калі пабываў у нямецкага фермера і ўбачыў, што той арандуе зямлю ў васемнаццаці ўласнікаў, стаў думаць інакш. Ну, прададзім мы зямлю. А навошта? Каб потым прыватнікі здавалі яе ў арэнду тым, хто на ёй працуе? Калі разумна рабіць, трэба да гісторыі звярнуцца. Сталыпінскую рэформу ўспомніце. Зямлю ва ўласнасць перадавалі толькі тым, хто на ёй працаваў. Тады быў створаны Зямельны банк, і ўсе пытанні вырашаліся праз гэтую ўстанову.

**— Значыць, я, гарадскі жыхар, не магу купіць участак у вёсцы?**

— Чаму? У вас ёсць права купіць кавалак зямлі да 25 сотак для будаўніцтва і абслугоўвання жылога дома. Размова вядзецца аб шырокім продажы. Магчыма, з цягам часу мы да гэтага прыйдзем, але пакуль гаварыць аб гэтым рана.

**— А ці ёсць землі, якія нікому не належаць?**

— Усе землі ў рэспубліцы падзелены паміж землекарыстальнікамі. Мізэрная плошча, і то гэта пераважна балоты, заказнікі, складаюць катэгорыю зямель запасу. Але ён зусім нязначны — 186,4 тысячы гектараў.

**— Мікалай Вярбіцкі з Мінска. Георгій Іванавіч, падкажыце, калі лепш прыватызаваць зямлю — сёлета ці пачакаць да наступнага года? Падымуцца цэны на зямлю ці не?**

— Вы павінны ведаць, што Вярхоўны Савет устанавіў тэрмін продажу зямлі па льготнай цане да 1 студзеня 1997 года. Хутка ён скончыцца. Зараз мы выносім прапанову аб прадаўжэнні тэрміну. Але што такое цэны? Ёсць нарматыўная цана, і ёсць ільготная. Ільготная цана роўная пяцікратнай стаўцы зямельнага падатку. Я думаю, зямельны падатак будзе мяняцца. Будзе ўведзены каэфіцыент інфляцыі стаўкі. Адпаведна, і цана зямлі падымецца. Ужо ў студзені, магчыма.

**— Мяне завуць Вольга Пятроўна Старавойтава. Мы з мужам жывём у Мінску. Тры гады назад у вёсцы памерла мая маці, і нам у спадчыну перайшлі дом і 45 сотак зямлі. Мой муж-пенсіянер паехаў у вёску і жыве там ужо трэці год. Мы купілі надзел 30 сотак, і 15 яшчэ засталося каля дома. А ў гэтым годзе сельскі Савет дазволіў будаўніцтва на нявыкупленай плошчы іншаму гаспадару. Мы звярталіся ў сельскі Савет. Там адказалі, што мы на гэтыя 15 сотак не маем права, бо я там не жыву. Але ж я не магла там жыць, пакуль працавала. Цяпер я пайшла на пенсію і хачу пераехаць у вёску. На якіх падставах нашу зямлю забралі?**

— Гэта не ваша зямля, а дзяржаўная. Вы не прапісаны там, я правільна зразумеў? Дык вось. Ваша маці валодала зямлёй для абслугоўвання жылога дома і вядзення асабістай падсобнай гаспадаркі. Такія ўчасткі пераходзяць у спадчыну толькі сельскім жыхарам. Гараджане ж маюць права толькі на ўчастак да 25 сотак для будаўніцтва і абслугоўвання жылога дома. Астатнюю зямлю па закону сельскі Савет можа перадаць вам у арэнду для вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі ці прадаставіць другому грамадзяніну. У нас пакуль яшчэ дзейнічае прапіска. Калі вы набудзеце статус сельскага жыхара, можаце звярнуцца ў сельсавет з хадайніцтвам аб прадастаўленні вам зямельнага ўчастка для вядзення асабістай падсобнай гаспадаркі. Па закону тады вам могуць даць да 1 гектара. А колькі дадуць — 40 сотак ці 50, залежыць ад наяўнасці свабодных плошчаў у сельскім Савеце. Пакуль жа ў вас права на ўчастак толькі ў памеры 25 сотак.

**— Алена Галаўніцкая турбуе. Георгій Іванавіч, у мяне такое пытанне. Бабуля завяшчала мне дом у вёсцы. Пасля яе смерці я натарыяльна афарміла спадчыну. Гэта адбылося ўжо пасля 1993 года, пасля прыняцця закона аб прыватнай уласнасці на зямлю. Ці магу я выкупіць зямлю па льготнай цане?**

— Не можаце. Той, хто меў участак да прыняцця закона, мае права выкупіць зямлю па льготнай цане. Вы ж атрымалі пасля прыняцця закона, таму толькі па нарматыўнай цане можаце выкупіць.

**— А што значыць пажыццёвае карыстанне?**

— Не пажыццёвае карыстанне, а пажыццёва наследуемае ўладанне. Гэта амаль уласнасць, толькі крыху ўрэзаная. Зямлю ў вас ніхто не адбярэ. Вы валодаеце ёй, можаце перадаць нашчадкам, але не можаце гэтую зямлю прадаць, падарыць, закласці ў банк пад крэдыт. Вось і ўсё адрозненне.

**— А калі бабуля ў спадчыну пакінула, гэта не пажыццёвае ўладанне?**

— Так. Вам толькі патрэбна афарміць дакументы на права валодання зямельным участкам.

**— Добры дзень. Сяргей Царык з Мінска. Як будзе ацэньвацца зямля? Я чуў, што яна ацэньваецца як сельскагаспадарчыя ўгоддзі.**

— Ні ў якім разе. Землі сельскагаспадарчага прызначэння ацэньваюцца па адной методыцы, землі населеных пунктаў — па другой. Нядаўна мы разгледзелі методыку ацэнкі сельскагаспадарчых зямель і працуем над методыкай ацэнкі зямель населеных пунктаў. Калі ўсё будзе складвацца як плануем, то за будучы год правядзём кадастравую ацэнку ўсіх зямель сельскагаспадарчага прызначэння, а ў 1998-м — гарадоў і вёсак.

**— А цана зямлі будзе розная?**

— Безумоўна. Яна і зараз розная, бо залежыць ад якасці зямлі і месцазнаходжання ўчастка. На гэтых «кітах» грунтуецца методыка кадастравай ацэнкі зямлі.

**— Ці можна сёння сказаць, якой будзе цана?**

— Сёння можна сказаць пра нарматыўную цану, якая залежыць ад якасці і месцазнаходжання ўчастка. Зараз прапрацоўваецца пытанне продажу зямельных участкаў для будаўніцтва і абслугоўвання жылога дома на аўкцыёнах. Думаю, за стартавую цану будзе прынята нарматыўная, а якая верхняя мяжа, хто ж ведае?

**— А хто можа стаць пакупніком на аўкцыёне?**

— Пакуль толькі грамадзяне Беларусі.

**— Уладзімір Максімаў. Сам я жыву ў сталіцы, а мае бацькі — на Шклоўшчыне. Яны часта мне задаюць пытанне, якое хачу вам адрасаваць, Георгій Іванавіч. Ці не атрымаецца так, што зямлю скупяць, калі будзе дазволены шалёны продаж?**

— Думаю, што такога не здарыцца. Праектам «Закона аб унясенні змяненняў у Закон аб уласнасці на зямлю» прадугледжваецца да існуючай уласнасці на зямлю дадаць продаж замежным інвестарам пад неабходныя для рэспублікі праекты, а таксама беларускім юрыдычным асобам, якія прыватызавалі нейкія аб'екты. А неабмежаваны продаж у нашай рэспубліцы наўрад ці будзе дазволены.

**— «Прамая лінія»? Я жыхарка Мінска, Святлана Пятрэнка. У нас у вёсцы Раўнаполле Пухавіцкага раёна ёсць 12 сотак. Бярэжырскі сельсавет штогод спаганяе з усіх уладальнікаў узнос, які быццам бы накіроўваецца на добраўпарадкаванне. Але нічога пры гэтым не робіцца. Наколькі гэта правамерна?**

— Я гэта называю рэкетам. Грамадзяне, уласнікі і ўладальнікі, плацяць толькі зямельны падатак. Многія сельскія Саветы пры выдзяленні зямельнага ўчастка ўстанаўліваюць аднаразовыя зборы за развітую інфраструктуру. А спаганяць штогод?..

**— Людзі баяцца, што зямлю адбяруць, і плацяць.**

— На якіх падставах адбяруць? Калі вы па мэтаваму прызначэнню выкарыстоўваеце і плаціце падатак, чаго баяцца? Мы высветлім гэтае пытанне.

**— І яшчэ мяне вось што цікавіць. Раней у рэспубліцы быў такі ажыятаж вакол надзелаў. А як часта цяпер звяртаюцца і на якія мэты бяруць зямлю?**

— На прыкладзе Мінскай вобласці раскажу. Два гады назад мы падабралі і перадалі Мінскаму гарвыканкому землі для арганізацыі садаводчых таварыстваў. Распрацавалі праекты забудовы іх тэрыторый. Работа вялікая праведзена, а садаводаў, каб запоўніць гэтыя таварыствы, няма. Ажыятаж спаў. Землі ж цяпер і калгасам не належаць, і людзьмі не апрацоўваюцца. У сельскія Саветы часцей за ўсё гараджане звяртаюцца, каб атрымаць участак пад індывідуальнае будаўніцтва.

**— Георгій Іванавіч, як вы на перспектывы буйных гаспадарак глядзіце? Я студэнтка аграрнага універсітэта Наталля Галякевіч. У нас часта спрэчкі па гэтым пытанні ўзнікаюць.**

— Я думаю, што калгасы і саўгасы павінны існаваць. Фермеры нас не накормяць. У Лагойскім раёне ёсць фермер, адзін з першых на Міншчыне арганізаваў сваю гаспадарку. Ён своечасова ўзяў крэдыт, купіў тэхніку. Словам, трывала стаў на ногі. І той лічыць, што пакуль ёсць буйныя гаспадаркі, зможа жыць фермерства. Іншая справа, што калгасы і саўгасы павінны рэфарміравацца. Магчыма, трэбаператварыць іх у акцыянерныя таварыствы. Але па першаму вопыту ўжо ведаем: не жадаюць людзі выходзіць з калгасаў. Прывыклі. Хоць і грошы не атрымліваюць, але ведаюць, што пражывуць. Хаця б украдуць, што дрэнна ляжыць. І што такое калгас? Гэта, безумоўна, вытворчасць, але яшчэ і шырокая сацыяльная сфера: дзіцячыя садзікі, магазіны, клуб. А яшчэ дапамога пенсіянерам. Пенсіянерам трэба агарод пасадзіць, убраць, сена накасіць. І за што? Амаль бясплатна. Я неаднойчы з кіраўнікамі гаспадарак размаўляў. Першае, што яны прапануюць зрабіць, — перадаць сацыяльныя аб'екты ў іншыя рукі. А другое — прывучыць людзей жыць па сродках. За ўсе паслугі трэба плаціць. Магчыма, пры сельскіх Саветах трэба стварыць камунальныя службы, куды б людзі маглі звяртацца па дапамогу. І абавязкова правесці ацэнку зямлі і выкарыстоўваць у сельскай гаспадарцы толькі тую зямлю, якую эканамічна мэтазгодна так эксплуатаваць. А то я быў падчас уборкі ў Расонскім раёне. Дык там ураджайнасць складала 9 цэнтнераў з гектара. Ды на гэтых землях трэба лес пасадзіць, турыстычную зону ствараць.

**— Мяне завуць Ладзята Людміла Іванаўна. Георгій Іванавіч, у нас у калгасе «1 Мая» Нясвіжскага раёна даюць 70 сотак на двор. Яны знаходзяцца ў севазвароце. Я адна выхоўваю дваіх дзяцей. Лёс распарадзіўся так, што мы з мужам разышліся. І мне недадаюць зерне з 10 сотак.**

— Па закону зямлёй распараджаецца сельскі Савет, не калгас. Я звяжуся з землеўпарадчыкам Нясвіжскага раёна, каб ён вырашыў гэтае пытанне.

**— Я не адна такая. Усім адзінокім чамусьці недадаюць зерне з 10 сотак. Быццам бы наша зямля, а мы панеслі страты.**

— Разбяромся, не хвалюйцеся.

**— Дзякуй вам вялікі.**

**— З пытаннем звяртаецца Юрась Навуменка. Як часта здараецца, скажам так, самазахоп зямель і якія меры прымаюцца да вінаватых?**

— Ездзіце па рэспубліцы? Побач з шашой прыватныя крамы, кафэ бачылі? Практычна ўсе яны пабудаваны незаконна. Я, як Галоўны дзяржаўны інспектар па кантролю за выкарыстаннем і аховай зямель, ужо амаль тры гады ваюю. Парушальнікаў штрафуем і прадпісваем ці афарміць згодна з законам, ці знесці пабудову. Якія памеры штрафаў? Фізічная асоба павінна заплаціць дзяржаве да 10 мінімальных зарплат, г. зн. 1 мільён, юрыдычная — да 50 «мінімалак».

**— Смешныя сумы.**

— Згодны. Мы ў праект Кодэкса аб зямлі ўнеслі прапанову, што аб'ект, пабудаваны з парушэннем закона, зносіцца за кошт парушальніка. Яшчэ адна прапанова — аб павелічэнні памеру штрафаў да 100 мінімальных зарплат.

**— Аляксей Крывіцкі, званю з Полацкага раёна. Мае родныя жывуць у Расіі, на Браншчыне. Яны маюць кавалак зямлі, але ўжо колькі не плацяць за яе падатак. У Беларусі распрацаваны механізм спагнання падаткаў ці можна ўхіліцца ад іх уплаты?**

— Не проста можна, а і ўхіляюцца. Пакуль што не наладжана рэгістрацыя землекарыстальнікаў. Трэба сказаць, што Беларусі вельмі пашанцавала: швейцарскі бок аказаў сур'ёзную дапамогу ў стварэнні зямельнага кадастра. Памер яе — 6 мільёнаў швейцарскіх франкаў. Нас забяспечылі абсталяваннем, якога няма ні ў адной краіне СНД. Можам ажыццяўляць аэраздымкі і ствараць інфармацыйную сістэму зямельнага кадастра. Такім чынам і рэгістрацыя ўсіх землекарыстальнікаў адбудзецца. На правядзенне гэтых мерапрыемстваў па ўсёй Беларусі спатрэбіцца 10—12 гадоў. Праз такі тэрмін мы будзем валодаць поўнай інфармацыяй аб зямлі і яе гаспадарах. А пакуль жа пракантраляваць уплату падаткаў складана. У Расіі ўжо пачалі работы па інвентарызацыі зямель. Я вам прыклад прывяду. У Екацярынбургу па выніках работы толькі ў адным раёне горада высветлілася, што ўсяго 30 працэнтаў тых, хто карыстаецца зямлёй, зарэгістраваны і плацяць падатак на зямлю. Так што гэта вельмі важная работа і яе неабходна зрабіць як мага хутчэй. Падчас праверкі ў Барысаве мы таксама выявілі многіх землекарыстальнікаў, якія не зарэгістраваны і не плацяць падатак. Тут трэба зацікавіць мясцовыя ўлады, каб яны прадугледзелі пры фарміраванні бюджэтаў на 1997 год сродкі на правядзенне работ па інвентарызацыі зямель.

**Прашу адказаць на пытанне як афарміць зямлю ў пажыццёвае наследуемае валоданне (у мяне ўчастак каля 45 сотак)? Ці могуць гэта зрабіць у сельскім Савеце ці райвыканкоме Салігорскага раёна?**

**Бараноўская Вера Раманаўна, пенсіянерка з Салігорскага раёна.**

— Кошт работ па вымярэнню межаў зямельнага ўчастка і афармлення дзяржакта па цэнах, зацверджаных Камітэтам, складае цяпер каля 750 тысяч рублёў.

Аднак улічваючы, што Беларускім прадпрыемствам сельскагаспадарчых аэрафотагеадэзічных пошукаў (БелПСГАГП) выконваюцца работы па складанню фотапланаў зямель населеных пунктаў Салігорскага раёна маштаба 1:2000, які прымяняецца для адлюстравання межаў зямельных участкаў у дзяржакце, Камітэт дазволіў названаму прадпрыемству афарміць для вас дзяржакт, пераносячы межы зямельнага ўчастка з гэтых фотапланаў без вымярэнняў на мясцовасці, з коштам работ 300 тыс. рублёў і накіраваў яму ваша пісьмо.

Плошча зямельнага ўчастка для будаўніцтва і абслугоўвання жылога дома і вядзення асабістай падсобнай гаспадаркі, якой вы фактычна карыстаецеся, вылічана прадпрыемствам БелПСГАГП па фотаплану маштаба 1:2000 і складае 0,475 га.

Для заключэння дагавора на выкананне работ па афармленню дзяржакта вам неабходна прыбыць у прадпрыемства БелПСГАГП (аўтобус Мінск-Атоліна ад прыпынку «Бальніца хуткай дапамогі» на перакрыжаванні вуліц Слуцкая шаша і Каржанеўскага ў г. Мінску да прыпынку «Прылукі»), маючы пры сабе асабісты пашпарт, копію рашэння сельсавета аб прадастаўленні вам 0,475 га зямель і ўказаную суму грошай для аплаты работ.

У выпадку наяўнасці ў в. Радкова і іншых населеных пунктаў сельсавета некалькіх грамадзян, якія жадаюць атрымаць дзяржакты, прадпрыемства БелПСГАГП па вашаму паведамленню накіруе свайго прадстаўніка для афармлення дагавораў на выкананне работ па афармленню дзяржактаў на месцы.

**З 1968 года я з'яўляюся членам садаводчага таварыства «Палітэхнік». Мы з суседам карысталіся ўчасткам (5 сотак). Кожны аплачваў палову плошчы. Сусед вырашыў прадаць сваю зямлю, але па закону ўчастак павінен быць не менш як 4 соткі. Атрымаўшы фальшывую даведку ў старшыні садаводчага таварыства аб тым, што ўчастак належыць яму поўнасцю, сусед афарміў дагавор дарэння Андрыенку В.С. У выніку доўгіх судоў Вярхоўны суд РБ прызнаў маю палову 31 мая 1993 года маёй уласнасцю, а Андрыенку В.С. пакінуў у карыстанне, згодна з дароўнай, другую палову доміка. Пытанне аб праве карыстання зямлёй было перададзена на разгляд народнага суда Савецкага раёна г. Мінска. Рашэннем ад 8 ліпеня 1993 года нарсуд замацаваў 1/2 садовага ўчастка за кожным.**

**Ці законна Андрыенка В.С. прыватызаваў сваю палову ўчастка па льготнай цане, калі рашэнне суда аб праве карыстання ім зямлёй было вынесена пасля даты, якая ўказана ў законе аб прыватызацыі, пры ўмове, што ён не з'яўляецца членам садаводчага таварыства? Як я павінен цяпер плаціць: за палову ўчастка або за ўвесь, як патрабуе з 1995 года старшыня таварыства?**

**З павагай НАЙДЗЕНКА В.М., інвалід II групы Вялікай Айчыннай вайны, г. Мінск.**

— Зямельны падатак у садаводчых таварыствах налічаецца за зямельныя ўчасткі, што знаходзяцца ў валоданні ці ўласнасці грамадзян, а таксама за землі агульнага карыстання садаводчага таварыства (землі, занятыя вуліцамі, дарогамі, збудаваннямі і аб'ектамі грамадскага карыстання) кожнаму члену таварыства суразмерна іх долі гэтых зямель.

З вашага пісьма вынікае, што права ўласнасці грамадзяніна Андрыенкі В.С. на палову садовага дома па дароўнай Вярхоўны суд Рэспублікі Беларусь прызнаў 31 мая 1993 года, а ў адпаведнасці з артыкулам 37 Кодэкса Рэспублікі Беларусь аб зямлі пры пераходзе права ўласнасці на пабудовы пераходзіць і права валодання ці карыстання зямельным участкам. Таму грамадзянін меў права на набыццё зямельнага ўчастка ва ўласнасць па льготнай цане. Народны суд Савецкага раёна г. Мінска замацаваў права на зямельны ўчастак і вызначыў памер зямельных участкаў грамадзяніна Андрыенкі В.С. і Вашага.

***Да ўвагі чытачоў. Адказы на пытанні, якія былі дасланы ўжо пасля «прамой лініі», будуць надрукаваны ў бліжэйшых выпусках «Пытальніка».***

**Матэрыялы «прамой лініі» падрыхтавала Жанна КАТЛЯРОВА.**
**Фота Віктара СТРАЛКОЎСКАГА.**

## Аб павышэнні памеру мінімальнай заработнай платы і павелічэнні аплаты працы работнікаў бюджэтнай сферы

(Заканчэнне. Пачатак на 2-й стар.)

4. Міністэрству працы па ўзгадненню з Міністэрствам фінансаў з 1 студзеня 1997 г. увесці:

даплаты да тарыфных ставак і акладаў работнікаў бюджэтнай сферы ў памерах 160.000—270.000 рублёў у месяц;

дыферэнцыраванае павышэнне да 20 працэнтаў тарыфных ставак і акладаў работнікаў (за выключэннем служачых дзяржаўнага апарату, ваеннаслужачых, асоб радавога і начальніцкага саставу органаў унутраных спраў) за стаж работы ў галіне па спецыяльнасці;

выплату надбавак і даплат, звязаных з умовамі працы, работай у начны час, рэжымам работы і іншымі абставінамі, у працэнтах да тарыфнай стаўкі першага разраду.

5. Міністэрствам, іншым цэнтральным органам кіравання, мясцовым выканаўчым і распарадчым органам, кіраўнікам прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый, фінансуемых і дацыруемых з бюджэту, забяспечыць пераразлік заработнай платы і акладаў работнікаў у адпаведнасці з установленай дадзенай пастановай стаўкай першага разраду і каэфіцыентамі Адзінай тарыфнай сеткі работнікаў Рэспублікі Беларусь.

6. Прасіць Нацыянальны банк пры неабходнасці выдаць Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва Міністэрства сацыяльнай абароны льготны крэдыт для забеспячэння своечасовага фінансавання выплаты пенсій.

7. Міністэрству сацыяльнай абароны сумесна з Міністэрствам фінансаў перагледзець памеры дапамог, а кіраўнікам вышэйшых, сярэдніх спецыяльных і прафесіянальна-тэхнічных навучальных устаноў — памеры дзяржаўных стыпендый.

8. Павялічыць з 1 студзеня 1997 г. у 1,3 раза назначаныя да ўказанай даты ў адпаведнасці з артыкуламі 17 і 18 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб занятасці насельніцтва Рэспублікі Беларусь» дапамогі па беспрацоўю і стыпендыі грамадзянам, якія праходзяць прафесіянальную падрыхтоўку (павышаюць кваліфікацыю) па накіраванню Дзяржаўнай службы занятасці.

9. Прызнаць страціўшымі сілу з 1 студзеня 1997 г. пастановы ўрада Рэспублікі Беларусь згодна з прыкладзеным пералікам.

**Выконваючы абавязкі Прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь С.ЛІНГ.**
2 снежня 1996 г. г.Мінск.

*(Пералік страціўшых сілу пастаноў урада Рэспублікі Беларусь будзе апублікаваны ў заўтрашнім нумары «Звязды»)*

## У Беларусі зараз налічваецца 418 тысяч інвалідаў

**Сёння ва ўсім свеце адзначаецца Міжнародны дзень інвалідаў. Дзень своеасаблівага напаміну пра існаванне гэтай катэгорыі насельніцтва. Зараз у Беларусі іх налічваецца 418 тысяч. Як паведаміў карэспандэнту «Звязды» памочнік-сакратар старшыні Беларускага таварыства інвалідаў Міхаіл Цыганкоў, дзяржаве няблага было б часцей успамінаць пра патрэбы бездапаможных людзей, улічваць іх становішча.**

Першачарговае значэнне мае стварэнне працоўных месцаў для інвалідаў. І пэўныя намаганні ў гэтым накірунку робяцца — так, хутка пачне дзейнічаць эксперыментальны завод па выпуску цэглы і чарапіцы, арганізаваны Рэспубліканскі цэнтр вольнага часу інвалідаў, праводзіцца шмат фестываляў і конкурсаў (так, 22 снежня ў будынку 22-й гімназіі па праспекце газеты «Известий» адбудзецца чарговы традыцыйны дзіцячы турнір па спартыўных танцах). Нельга забываць пра людзей, якія проста не могуць існаваць без шчырай дапамогі навакольных. Яны чакаюць увагі, чакаюць нашай спагады.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

ТРАГЕДЫІ

## АПОШНІ РУКАПАШНЫ БОЙ

**Мінскі начны бокс-клуб «Рэактар» зноў «праславіўся». І на гэты раз больш сур'ёзна...**

Некалькі месяцаў таму назад спецпадраздзяленне МУС праводзіла аперацыю менавіта ў гэтым клубе. Тады спецназаўцы ў масках і з аўтаматамі блакіравалі ўсе хады-выхады і ўчынілі сярод прысутных самы сапраўдны «шмон». Як высветлілася пазней, шукалі зброю і наркотыкі. Час ішоў, скандал вакол гэтай справы сціх. І вось «Рэактар» зноў «грымнуў».

Днямі ля клуба адбылася самая натуральная разня, прычым са смяротным зыходам. Па словах непасрэдных відавочцаў, падзеі разгортваліся прыкладна так (некаторыя разыходжанні ў фактах усё ж такі ёсць). Недзе каля 3 гадзін ночы наведвальнікі заўважылі, што на вуліцы ля ўваходу пачалася нейкая мітусня. Высветлілася, што нехта Алег Шыбут, у мінулым вядомы майстар рукапашнага бою і яшчэ больш вядомы па гучнай справе аб вымаганні, у якой «праходзіў» разам з чэмпіёнам свету па кікбоксінгу сярод прафесіяналаў Уладзімірам Задзіранам, уступіў у бойку з чатырма чачэнцамі.

«Алег стаяў на вуліцы і смаліў цыгарэту, — сказаў карэспандэнту «Звязды» прэзідэнт Федэрацыі боксу Беларусі Ігар Ражноўскі (клуб мае непасрэднае дачыненне да баксёрскай федэрацыі). — Каля 20 чалавек з'явіліся з боку вул. Максіма Багдановіча (магчыма, прыехалі на машынах), і чатыры чалавекі адразу ж пачалі біцца з Шыбутам. Ахоўнікі клуба выклікалі міліцыю, якая з'явілася хвілін праз пяць, калі ўжо ўсё было скончана».

На месцы здарэння міліцыя застала толькі мора крыві і чатырох пацярпеўшых. Адзін з іх у 3.40 быў дастаўлены з рэзаным раненнем ягадзіцы і бядра ў 2-ю клінічную бальніцу, дзе затрымаўся не больш за гадзіну, яшчэ двое (па нашай інфармацыі, — хлопец і дзяўчына трапілі ў пераплёт выпадкова) дасюль з нажавымі ранамі ляжаць у бальніцы хуткай дапамогі. Удары нажом у сэрца аказаліся для Шыбута смяротнымі.

Як стала вядома, каля месяца назад умоўна-датэрмінова выйшаўшы з папраўча-працоўнай калоніі, Алег Шыбут пачаў актыўна займацца шоу-бізнесам: рыхтаваў некалькі праграм у клубе «Рэактар», арганізоўваў прыезд расійскіх артыстаў. Амаль было дамоўлена, што ў Мінск па запрашэнню Алега Шыбута прыедзе вядомы расійскі барэц-вольнік, неаднаразовы алімпійскі чэмпіён Аляксандр Карэлін.

Што гэта было? Крымінальныя разборкі? Барацьба за сферы ўплыву? Помста? Можна толькі здагадвацца і чакаць вынікаў следства.

**Алесь СІВЫ.**




**1.**

Дзень Заікі пачынаецца не з пошукаў хлеба надзённага, але — віна. Ці гарэлкі. Ці... увогуле, якая розніца? Так працягваецца штодзень, месяцы і гады. Заіка вельмі худы, яго б у медінстытут, у якасці вучэбнага дапаможніка па вывучэнню будовы чалавечага шкілета. Ён і з маленства мажным не быў. Гады, праведзеныя за калючым дротам, зрабілі яго натуральным дыстрофікам.

Заіку зараз 33 гады. Прынята казаць — узрост Хрыста. Трэба, значыць, рабіць папярэднія высновы і пачынаць вялікія справы. Але ўсе справы Заікі ў мінулым. Іх можна падлічыць: роўна пяць. Пяць судзімасцей. Таму Заіка даўно махнуў рукой на справы вялікія. Яму б з маленькімі разабрацца. Але крымінальнымі.

Ён жыве з маці. Яна, па яго словах, Заіку церпіць. Маці ведае, што сына міліцыяй ужо не напужаеш, яна прывыкла да рэгулярных візітаў участковага і заве таго па-свойску — Пятровіч. Участковы ажыццяўляе адміністрацыйны нагляд за Заікам. Ён заключаецца ў праверцы наяўнасці аб'екта кантролю дома пасля пэўнай гадзіны. Напрыклад, Заіку трэба быць дома пасля 10 гадзін вечара. Пажадана цвярозым. Праўда, гэта толькі пажаданне. Пятровіч знаходзіць Заіку ў глыбокай «адключцы» і заспакоена ідзе дадому — службовы абавязак выкананы.

Калі нешта недзе паблізу здараецца, міліцыя абавязкова прыходзіць да Заікі. Ён прывык і сустракае опергрупу лянівым прывітаннем: «Камандзір, я ўжо па табе засумаваў...» Асноўнае яго злачынства, як гаворыцца, амаральны лад жыцця.

Заіка нідзе не працуе — і працаваць не збіраецца. Пасля першай судзімасці, ды і пасля другой, спрабаваў уладкавацца неаднойчы. Не бралі, а грузчыкам не хацеў — ставіў сябе высока. Праўда, яго не ставілі.

Калі разабрацца, то сядзеў ён за рэчы не вельмі сур'ёзныя. Першы раз — за бойку, другі — за дробны крадзеж, потым яго «засадзілі» за чужыя грахі. Пасля трох судзімасцей Заіка стаў асабліва небяспечным рэцыдывістам. Чацвёртая і пятая судзімасці ўтварыліся неяк самі сабою.

«Да асоб, у адносінах да якіх устанаўліваецца адміністрацыйны кантроль, могуць прымяняцца наступныя абмежаванні: забарона пакідаць дом у пэўны час; забарона прысутнічаць у пэўных пунктах раёна (горада); забарона выезду ці абмежаванне часу выезду за межы раёна (горада); яўка ў міліцыю ад аднаго да чатырох разоў у месяц», — тлумачыць «Юрыдычны даведнік для насельніцтва» (1988 г.).

У гэтым жа даведніку сказана, што адміністрацыйны нагляд прымяняецца ў тым ліку і для «... аказання неабходнага выхаваўчага ўздзеяння». Заіка трапляў пад нагляд пасля кожнай «ходкі». Выхаваўчае ўздзеянне? Вядома ж, было. Чатыры разы Заіку такі добра памялі рэбры. Ёсць і канкрэтны вынік: выбілі два зубы. Называецца — прафілактычная работа. Пасля гэтага Заіка яшчэ мацней палюбіў міліцыю ў цэлым і ўчастковага — у прыватнасці.

Яшчэ могуць пасадзіць на 15 сутак, гэта ўжо само сабою і не пужае. Што Заіку 15 сутак, калі яго агульны турэмны стаж складае 11 гадоў?

Яго завуць Толік, жыве ён на «Розачцы», так называюць у народзе вуліцу імя Розы Люксембург, палымянай рэвалюцыянеркі. Мы з ім пазнаёміліся ў лазні. Ён заўважыў мой зацікаўлены погляд — цела Толіка ўяўляе сабой шэраг «карцін» на крымінальныя тэмы — і сам падышоў. Чалавекам ён мне здаўся нармальным, нават разумным, толькі вельмі стомленым, нейкім зламаным. Зрэшты, што тут дзіўнага..

**2.**

Апошнія лічбы: у Беларусі налічваецца да 60 тысяч зняволеных.

Летась было дзесьці 50 тысяч. Паказчыкі, як гаворыцца, растуць.

Фармальна гэта сведчыць аб тым, што праваахоўныя органы спраўна ловяць, а суды акуратна саджаюць. Але злачыннасць чамусьці расце і набывае даволі жахлівыя адценні.

Калі ж падыходзіць не фармальна, а як яно ёсць, то рост колькасці пасаджаных адначасова з ростам злачыннасці сведчыць толькі аб адным: «план» выконваюць за кошт так званых «мужыкоў» — так на зоне называюць тых, хто трапіў сюды за бытавыя, гаспадарчыя і іншыя такога ж кшталту злачынствы. Старая-старая песня: можна не саджаць, але лепш пасадзім.

Чалавеку, які не сутыкаўся з крымінальным светам блізка, ён увесь здаецца адной вялізнай «чорнай дзіркай». Сядзіць ці сядзеў — значыць, і размовы няма — дрэнны, страшны чалавек.

Але давайце дамовімся: ёсць злачынцы і злачынцы. Крымінальны свет вельмі стракаты і разнастайны па сваёй структуры. Ёсць уласна «дзелавыя», для каго злачынства — мэтанакіравана выбраная прафесія. Тут свае «масці», скажам, «зладзеі ў законе», «аўтарытэты», «глядзячыя» і г. д. Іх не так многа, як здаецца. Сапраўдная вярхушка за краты трапляе вельмі рэдка, асабліва цяпер, калі грошы, як ніколі, вырашаюць усё. Іншы раз у калонію ідуць «быкі» — проста сказаць, радавыя салдаты злачынных груповак. Сюды ж можна аднесці прафесіяналаў-адзіночак. Гэта ўсё — арыстакратыя.

Большую частку складаюць тыя самыя «мужыкі». Гэтыя трапілі ў сітуацыю, выйсця з якой часта не бывае. Як з Толікам-Заікам.

Неяк мне давялося гаварыць з чалавекам, які меў за плячыма 16 судзімасцей. Сеў пры Сталіне «за каласкі» (указ 7/8), потым сядзеў пры Хрушчове, Брэжневе, Андропаве, Чарненку, Гарбачове, нарэшце, Шушкевічу—Кебічу. Ён выходзіў, прапісваць нідзе не хацелі, на работу не бралі, потым саджалі ў чарговы раз.

Для шырокай грамадскасці гэты факт, я сказаў бы, мае забаўляльны характар. Шырокая грамадскасць не задумваецца, колькі ўвогуле такіх людзей і што з імі рабіць. Зноў лавіць і зноў саджаць ці... што?

Утрыманне аднаго зняволенага ў месяц абыходзіцца беларускаму падаткаплацельшчыку ў 90 долараў. Зробім просценькі падлік. У месяц гэта выходзіць 5 мільёнаў 400 тысяч долараў, у год — 64 мільёны 600 тысяч долараў. Нармальна...

Пытанне — саджаць ці не? — выглядае смешным, недарэчным. Але які там смех. У большасці слёзы. За кратамі сядзяць жывыя людзі. Са сваімі характарамі, марамі, думкамі, планамі. Да мяне іншы раз трапляюць пісьмы з калоніі. Чытаць іх спакойна даволі цяжка. Я разумею, там умеюць «цісснуць слязу», спецыялісты такога профілю на зоне цэняцца. Але сапраўднае адрозніць ад «туфты» не так і цяжка. І колькі там адчаю, колькі надзеі на лепшае жыццё на волі...

Таму і чытаць цяжка, што ведаеш: шанцаў мала.

Ну а што, сапраўды, пасля турмы? Большасць, вядома, не прападае, вяртаюцца да сем'яў. Але ёсць асаблівы «кантынгент». Іх ніхто нідзе не чакае, ад іх адмовіліся, паставілі крыж, зажыва пахавалі. Што з імі? Па якому рахунку мы іх спішам?

**3.**

Афіцыйная назва гэтага цікавага ва ўсіх адносінах месца — цэнтр рэсацыялізацыі раней судзімых асоб пры УУС Мінгарвыканкома. Створана ўстанова ў 1989 годзе рашэннем таго ж выканкома. Прыстаўка «рэ» азначае вяртанне на зыходную пазіцыю, калі тлумачыць папулярна: былых зэкаў тут спрабуюць вярнуць да нармальнага жыцця.

Праўда, адразу ўзнікаюць сама мала два пытанні. Чаму пры УУС і чаму цэнтр размешчаны ў спецразмеркавальніку, дзе разам з «рэсацыялізуемымі» трымаюць бамжоў і «сутачнікаў»? Магу даць прыблізны адказ на першае пытанне: і былымі, і сённяшнімі асуджанымі органы (і толькі органы) займаюцца па традыцыі. Больш гэта нікому не патрэбна.

Яшчэ прасцей адказаць на другое — новага памяшкання не дае гарвыканкам. На банкі, офісы, канторы дае, а пад цэнтр — не дае. Тым самым паказваючы свае сапраўдныя адносіны да праблемы. І гэта так зразумела: ну які, скажыце вы мне, прыбытак ад былых зэкаў?..

Тут усяго 12 месцаў, у што паверыць цяжка, маючы на ўвазе лічбу ў 60 тысяч асуджаных. Абстаноўка чыста спартанская, нічога лішняга, што магло б адцягнуць увагу ад думак аб вечным: ложак, тумбачка, стол. «Нумар» разлічаны на 3-4 чалавекі. Ёсць кухня, сумешчаная з... прыбіральняй, душ. Прайсці ў «атэль разбітых сэрцаў» можна праз дзверы-краты. Сам цэнтр размешчаны на першым паверсе спецразмеркавальніка. Вось тут — камеры, а тут — рэсацыялізуюць былых жыхароў гэтых камер. Вельмі, дарэчы, арыгінальна.

Частку пастаяльцаў накіроўваюць сюды непасрэдна з зоны, частку пастаўляе мінская міліцыя. Галоўная ўмова: каб чалавек страціў усе сваяцкія сувязі, прапіску — карацей, сацыяльны статус увогуле. Каб сюды трапіць, трэба прайсці свой горкі шлях па поўнай праграме, згубіць усё, што можна.

Бедакам адразу даюць часовую 6-месячную прапіску і ўладкоўваюць на работу, пераважна ў будаўнічую сферу, дворнікамі, санітарамі і г. д. Уладкаванне на работу аўтаматычна робіць прапіску пастаяннай. Потым «выбіваюць» інтэрнат. У некаторых жыццё сапраўды наладжваецца. Хрэстаматыйны выпадак: нехта Д. нават сышоўся з жонкаю, з якой не бачыўся 15 гадоў, праведзеных у «санаторыі».

Практычна ніякіх сродкаў цэнтр ад горада не атрымлівае. Тут толькі спяць і задавальняюць няхітрыя бытавыя патрэбы. Пасля вызвалення кожны былы атрымлівае «пад'ёмныя» — 100 тысяч рублёў. З гэтымі грашыма, а хутчэй ужо без іх, чалавек прыязджае ў Мінск. Часта ў турэмнай «робе». Яму трэба апранууцца, штосьці есці. Справа ў тым, што людзі харчуюцца тут за свой кошт. Калі работу адразу знайсці не ўдаецца, народ падцягваецца звычайна на Камароўку — у бядзе яна яшчэ нікога не пакідала. Носяць, разгружаюць — разлік бывае натурай, рэдка — грашыма. Прынесенае з рынку гатуецца на адзінай электрапліце. Другую начальнік цэнтра трымае ў рэзерве — калі спаляць першую. Трэцяй яму ніхто не дасць.

Былі тэлевізары, але ўсе сапсаваліся. У бліжэйшыя выхадныя чакалі тэлемайстра, яму была аказана паслуга ў рамонце бытавой тэхнікі адным з пастаяльцаў. Начальнік цэнтра марыць знайсці дзе-небудзь мэблю, няхай і старую, адзенне, таксама ж не ад Крысціяна Лакруа. Абшчына пяцідзесятнікаў з блізкай вул. Гурскага іншы раз адзеннем дапамагае, але гэта не выйсце. Больш ніхто і нічым не дапамагае.

Многія з тых, хто сюды трапляе, адразу «робяць ногі». І таму ёсць свае прычыны. Рэжым тут, зразумела, не лагерны, але вельмі яго нагадвае. «Начальнік, я толькі што з-за кратаў, а ты мяне зноў сюды піхаеш!»

З другога боку, калі пасля бойкі аднаго старога заслужанага зэка «разлічылі», ён стаяў на каленях і, плачучы, прасіў пакінуць. Яго можна зразумець: паміраць пад плотам яшчэ горш.

Увогуле, са старымі бяда. У горадзе толькі адзін дом-інтэрнат для састарэлых і прымаюць туды былых арыштантаў, мякка кажучы, без ахвоты. Адзін мясцовы пенсіянер, мы з ім крыху пагутарылі, зараз чакае, калі дом-інтэрнат згодзіцца на яго кандыдатуру. Яго працоўны стаж — 25 гадоў, турэмны — 10, пенсію налічылі — 264 тысячы рублёў. Ясна, што з такімі грашыма і без жытла ён проста прападзе.

За шэсць з нечым гадоў праз цэнтр прайшло каля 200 чалавек. Колькі з іх сталі жыць нармальным жыццём, а колькі зноў «прапісаліся» на зоне — невядома. Статыстыкі не вядуць.

Дарэчы, такія ж установы створаны ва ўсіх абласных цэнтрах. Прыкладна з той жа колькасцю месцаў і тымі ж праблемамі. І тым жа каэфіцыентам карыснай дзейнасці...

У Галандыі, я ведаю, чалавек ужо ў турме можа працаваць і адкладваць грошы на свой рахунак у банку, бо «пражыванне» і ежа практычна бясплатныя. На волю выходзіць з кругленькай сумай і добра падумае, ці варта пачынаць зноўку. Мне таксама расказвалі пра аналагічныя цэнтры ў Германіі. Там яны называюцца начлежкамі, і, калі верыць расказам, я памяняў бы сваю двухпакаёўку ў Мінску на начлежку дзе-небудзь у Дзюсельдорфе.

Нікчэмны занятак — параўноўваць. Што з чым? Узроўні жыцця? Менталітэты — наш калгасны і іх дэмакратычны? Ці, можа, узроўні клопату дзяржаў аб чалавеку?

На Захадзе даўно зразумелі: кожны чалавек карысны грамадству, і да апошняй хвіліны нельга лічыць яго згубленым. Яму трэба даць шанц. Магчыма, ён яшчэ зможа, ён жа — чалавек. Толькі трэба гэтаму чалавеку дапамагчы. Не суцяшэннем нават, а практычна.

Мы прытрымліваемся мадэлі Іосіфа Вісарыёнавіча — народу ў нас хопіць на ўсё: і на вайну, і на турму.

Можа і не хапіць. Як кажуць мае героі: «Бог не фраер, уркі, ён усё бачыць...»

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

*Калі матэрыял ужо быў напісаны, стала вядома аб амністыі. Я сказаў бы, доўгачаканай. Каля 13 тысяч чалавек выйдуць на волю. Якраз тыя, што сядзяць па не вельмі сур'ёзных злачынствах. Але грамадства можа быць спакойным: сапраўдныя зладзеі за дротам застануцца.*

Ірына АСТАФ'ЕВА, старшыня Мінскага таварыства спажыўцоў:

# «МЫ ВЕЛЬМІ ХАЦЕЛІ Б ПАКАЗАЦЬ ЛЮДЗЯМ ІХ ПРАВЫ...»

**Безумоўна, кожны з нас неаднаразова чуў (а тым, каму пашчасціла трапіць хаця б аднойчы за мяжу, нават пераканаўся ў тым асабіста), які сэрвіс вось ужо колькі часу існуе ў цывілізаваных краінах. Барацьба за пакупніка там сапраўды жорсткая, і той, хто дапусціў памылку, караецца таксама бязлітасна. Але, зазначым, гэтая «вайна» вымушае змагацца за «жыццё» не спажыўца, а фірмы-вытворцы, магазіны. Немалаважна таксама, што гэтая барацьба вядзецца менавіта дзеля пакупніка, а «зброяй» у ёй служаць выдатная якасць тавараў, іх вялікі асартымент, ветлівасць і павага прадаўцоў і шмат розных нюансаў, якія большасці нашых суграмадзян колькі часу, на жаль, яшчэ будуць невядомы. Там пакупнік хто? Цар, Бог і воінскі начальнік, паколькі ад яго залежыць калі не ўсё, дык вельмі і вельмі многае. Толькі паспрабуй яго пакрыўдзіць, прадаць няякасны тавар, або выставіць большую, чым у суседнім магазіне за той жа тавар, цану. Ён больш ніколі не купіць у цябе ніводнай рэчы, накажа гэта ўсім блізкім і знаёмым ды яшчэ і добрую кампенсацыю за ўрон «злупіць». Фірма будзе імгненна пакарана банкруцтвам, а яе месца займуць іншыя, якія, паверце, зробяць усё магчымае і немагчымае, каб толькі дагадзіць пакупніку. Таму ў цывілізаваных краінах і тавараў добрых мноства, і абслугоўванне, як кажуць, на ўзроўні. Іншая справа ў нас. Прыватны бізнес яшчэ вельмі кволы, да таго ж са сваімі «хваробамі» росту, а што застаецца? Адзіная манаполія тых ці іншых гігантаў вытворчасці, якім ніхто не пагражае, таму і працуюць нярэдка яны з бракам, не спяшаючыся выпраўляць становішча. Навошта? Пакупнік усё роўна не мае выбару, «пакруціць носам», але вернецца, набудзе тое, што ёсць. Ды і з-за мяжы нярэдка гоняць халтуру, ведаючы, што ў беларускага спажыўца ўсё роўна выбар адсутнічае. У такіх умовах, безумоўна, паўстае пытанне: няўжо абараніць яго немагчыма? На шчасце, сітуацыя пачала хаця б крыху мяняцца да лепшага са з'яўленнем Мінскага таварыства спажыўцоў. З яго старшынёй Ірынай Астаф'евай гутараць нашы карэспандэнты.**

**— Ірына Іванаўна, што сабой уяўляе Мінскае таварыства спажыўцоў і якія яго мэты?**

— Гэта грамадская арганізацыя з сакавіка сёлетняга года пачала рэалізацыю праекта «Гарачая лінія». Асноўная яе задача — абараняць правы спажыўцоў. На жаль, сёння дзяржаўныя органы па абароне правоў спажыўцоў працуюць па-ранейшаму, г. зн. не ставяць мэтай інфармаванне і адукацыю людзей. Мы ж імкнёмся паказаць спажыўцам іх правы, зрабіць пакупнікоў рухаючай сілай новых інстытутаў па абароне ўласных інтарэсаў.

**— Што гэта ўяўляе сабой на практыцы?**

— У Законе «Аб абароне правоў спажыўцоў» ёсць такое паняцце — «права выбару». Гэта азначае, што, каб зрабіць правільны выбар, пакупнік павінен мець поўную інфармацыю аб тым ці іншым тавары, паслугах, г. зн. базу інфармацыі (дзе, у якім магазіне што лепш купіць). На жаль, выкананне гэтай функцыі нам пакуль не па сілах, хаця людзі ўсё часцей тэлефануюць нам менавіта з такімі пытаннямі. У больш шырокім сэнсе права выбару азначае наяўнасць канкурэнцыі паміж фірмамі, прадпрыемствамі, якія імкнуліся б задаволіць патрэбы спажыўца. Маючы неабходныя веды, пакупнікі ў гэтым выпадку і становяцца той рухаючай сілай рынку (каму аддаць перавагу ў набыцці тавараў, аказанні паслуг і г. д.), якая ў сваю чаргу. можа прымусіць запрацаваць закон па абароне іх правоў. Пакуль жа, на жаль, людзі вельмі часта церпяць ад нядобрасумленных вытворцаў, пастаўшчыкоў і г. д.

**— Ад чаго, якіх груп тавараў сёння найчасцей нясе страты айчынны пакупнік?**

— На першым месцы ідуць прадукты харчавання і вінна-гарэлачныя вырабы — тое, з чым мы сутыкаемся штодзень. З нехарчовай групы — складана-бытавая тэхніка, прычым у першую чаргу айчынная. Напрыклад, колькі часу таму ў скандал быў уцягнуты «Гарызонт», які збываў свой некандыцыйны тавар фірме «Палміс», якая ў сваю чаргу рабіла з яго тэлевізары, але чамусьці з маркай завода. Спажывец гэтага не ведаў і атрымалася, што практычна колькі фірма прадала тэлевізараў, столькі разоў мы з ёй і судзіліся. Праўда, зараз скаргаў стала значна менш — напэўна, тавар разышоўся цалкам. Не менш нараканняў і на расійскую тэхніку. На імпартную зарэгістраваны толькі асобныя скаргі, бо, як правіла, сур'ёзныя фірмы клапоцяцца аб арганізацыі на месцах спецыяльных службаў, якія не дапускаюць парушэнняў. Скажам, гэта датычыцца замежных пральных машын.

**— Ці залежыць якасць прадукцыі ад таго, хто ёй гандлюе — невялікая прыватная фірма або салон?**

— Безумоўна. Прадпрымальнік з імем будзе працаваць з вядомымі фірмамі напрамую, каб пазбегнуць «праколаў». Добры працэнт скаргаў прыпадае менавіта на дробныя камерцыйныя фірмы «купі-прадай».

**— Ірына Іванаўна, што рабіць пакупніку ў выпадку, калі ён набыў, скажам, тэлевізар або пральную машыну, і раптам у яго з'явіліся праблемы?**

— Тут ёсць адзін цікавы момант, аб якім пакупнікі практычна не ведаюць, а тлумачыць ім яго ніхто не спяшаецца. Існуе палажэнне «Гарантыйнае і пасляганрантыйнае абслугоўванне», згодна з якім, калі ў перыяд гарантыі ў вас выйшлі са строю больш трох дэталяў (асобна па адной ці ўсе разам), вы маеце поўнае права скасаваць дагавор куплі-продажу. Да нас тэлефануюць пасля 5, 7, 8, 9 і нават 10 рамонтаў, па-ранейшаму нават не здагадваючыся аб гэтым падведамасным акце. Між тым, і гарантыйныя майстэрні «Гарызонта», і завода «БелВар» і шэрага іншых прадпрыемстваў ведаюць аб ім, але ўсё роўна дураць людзей. Мала таго, ёсць факты (праводзіліся экспертызы), што падчас рамонтаў з тэхнікі дастаюць «лішнія» дэталі! Яшчэ такі момант. У некаторых майстэрнях, скажам, па сэрвіснаму абслугоўванню пральных машын «Вятка», няма запасных частак. Вы заплаціце за выклік майстра, ён скажа, што машына сапсавалася, але наладзіць яе наўрад ці зможа. А грошы ён бярэ, як тлумачаць, за пастаноўку «дыягназу» — чаму не працуе агрэгат. На такім падмане многія майстэрні і існуюць.

**— І што, выйсця з гэтага становішча для спажыўца няма?**

— Ёсць, толькі зноў жа пра яго не кожны ведае. Згодна з Законам «Аб абароне правоў спажыўцоў» пакупнік мае права на пасляганрантыйнае абслугоўванне, г. зн. на тэрмін службы (напрыклад, 10 гадоў). Напрыклад, у той жа пральнай машыны гарантыйны тэрмін тры гады, а яна зламалася на чацвёртым. Што рабіць? Звяртацца ў магазін, які прадаў вам гэтую машыну, паколькі менавіта ён абавязаны паставіць вам неабходную запасную частку. Калі магазін заключаў дагавор з заводам, ён павінен быў уключыць у яго пункт аб пастаўцы запчастак, каб у спажыўца не балела галава, дзе яе шукаць. На жаль, пакуль закон уступіў у сілу (у студзені 1994 года), у папярэднія гады ніхто аб гэтым не клапаціўся, і многія аказаліся ў незайздросным становішчы. Мы шмат судзіліся з тымі ж магазінамі, шмат чаго дабіліся, дарэчы, так што многія пачалі дамаўляцца з заводамі аб пастаўках запчастак, каб не мець непрыемнасцей.

**— Значыць, у майстэрню практычна няма сэнсу звяртацца?**

— Выходзіць, так. Калі што здарылася з тэхнікай, раю заглянуць у пашпарт: дзе, у якім магазіне яна была набыта, і звяртацца туды. Або ён сам павінен паставіць дэталь, або заключыць адпаведны дагавор з майстэрняй, якая зможа вам іх паставіць. Калі магазін адмаўляецца гэта рабіць, пакупнік мае права падаць на яго ў суд. Дарэчы, тыя заводы і гандлёвыя кропкі, якія ўжо судзіліся з намі, лічаць за лепшае больш з намі не звязвацца, г. зн. не даводзіць справу да суда, а кампенсаваць урон пацярпеўшаму.

**— Калі ласка, давайце вернемся да прадуктаў харчавання. Якая сітуацыя тут?**

— Гэта наша самая вялікая праблема. Як ні дзіўна прагучыць, менавіта ў гэтай галіне мы не можам абараніць чалавека. Чаму? Дзяржаўныя органы (санэпідслужба) абараняе неабмежаванае кола спажыўцоў, а не асобнага пакупніка. Скажам, вы набылі няякасны каньяк, мёд, масла і патэлефанавалі нам. Мы паведамілі аб гэтым санслужбе, якая выехала на месца і зняла з продажу гэтую партыю (каб не было дарэмных выклікаў, мы просім спажыўца пакінуць адпаведны запіс у кнізе скаргаў, якія Міністэрства гандлю захавала ў кожным магазіне). Што адбываецца далей? Той, хто патэлефанаваў, выратаваў ад набыцця дрэннай прадукцыі вялікую колькасць іншых людзей, але сам аказаўся безабаронным, паколькі па існуючых правілах (па якіх санслужба хоча працаваць і далей) надкусаны, адкаркаваны і г. д. тавар у яго на экспертызу не возьмуць. Мы ўжо самі тады імкнёмся дапамагчы вярнуць грошы пацярпеўшаму: тэлефануем у магазін, кажам, што набыты тавар з такой вось партыі, даём копіі дакументаў з санслужбы. Але юрыдычна ў судзе мы яго абараніць не можам.

**— Якое ж выйсце? Напэўна, нешта трэба мяняць...**

— Настаў час павярнуцца да праблем спажыўца тварам, прымусіць тую ж санслужбу працаваць у новых умовах. Яна не бярэ ў чалавека прадукт на экспертызу, а праводзіць рэйдавыя праверкі. Я сама калісьці працавала ў інспекцыі пры Міністэрстве адукацыі, дык у нас навучальныя ўстановы загадзя ведалі аб ёй і рыхтаваліся. Зразумела, недахопы санслужба знаходзіць. Але гэтага сёння ўжо мала...

**— Атрымліваецца, з дзяржаўнымі органамі па абароне правоў спажыўца няма ніякага паразумення?**

— Чаму? Добрыя адносіны ў нас склаліся, у прыватнасці, з Белстандартам. Калі ў спажыўца ўзнікае патрэба правесці экспертызу (а гэтая справа — рэч дарагая), мы накіроўваем яго туды. Дарэчы, калі вы лічыце, што тавар недабраякасны, экспертызу са сваіх сродкаў павінен плаціць магазін або вытворца. Мы так і пішам: у выпадку абароны інтарэсаў спажыўца ў судзе яна будзе кампенсавана вінаватым бокам.

**— Дарэчы, Ірына Іванаўна, давайце пагаворым аб судах. Наогул аб самім механізме адстойвання спажыўцом сваіх правоў...**

— Калі ў спажыўцоў ёсць праблемы, яны тэлефануюць нам па нумары «гарачай лініі» (226-27-90). Юрысты бясплатна даюць кансультацыі, калі трэба — запрашаюць да сябе. (Зрэшты, свае правы спажывец можа абараніць і самастойна, не звяртаючыся ў Мінскае таварыства спажыўцоў.) Спецыялісты дапамагаюць скласці прэтэнзію, весці справу ў судзе.

**— Ці шмат тых, хто даводзіць справу да суда?**

— Наш менталітэт у галіне абароны сваіх правоў яшчэ вельмі невысокі, таму такіх выпадкаў няшмат. Чалавек хутчэй пойдзе па калідорах улады, чым звернецца ў суд.

**— Гэта аб матэрыяльным боку. А што датычыцца кампенсацый за маральны ўрон? Падаецца людзей пакуль палохае нават само гэтае слова, не тое што зварот у суд з гэтай нагоды...**

— Вы маеце рацыю. Здараецца, чалавек так рады, што яму кампенсавалі матэрыяльныя страты, што сам адмаўляецца ад іску аб кампенсаванні страт маральных. Хаця па Закону «Аб абароне правоў спажыўцоў» ён можа заявіць любую суму, якую лічыць патрэбнай і якая, па яго меркаванню, пакрывае выдаткі, урон, нанесеныя яго гонару, здароўю і г. д.

**— А што з гэтых сум, наогул з абслугоўвання спажыўцоў мае таварыства?**

— Вы закранулі вельмі балючае пытанне. Што мае... 10 працэнтаў ад сумы іску ў судзе і капейкі — ад спажыўцоў. Адзін месяц, напрыклад, выйшла ажно 450 тысяч рублёў! Калі сур'ёзна, пытанне фінансавання — вельмі вострае. У гэтым годзе звярталіся з гэтай праблемай у Кабінет Міністраў, той пераадрасаваў нас у Міністэрства фінансаў, але яно «зачыніла дзверы». Калі ўрад не пойдзе насустрач, пасля Новага года «гарачая лінія» можа закрыцца, паколькі гэты праект фінансуецца фондам Сораса толькі да снежня, а новых грошай няма.

**— Вы лічыце, «гарачая лінія» будзе патрэбна і далей?**

— Безумоўна! Мы разглядалі статыстыку парушэнняў правоў спажыўца па відах тавараў, а вось структура парушэнняў па сферах спажывання. На першым месцы ідуць гандаль і бытавое абслугоўванне (што мы ўжо закранулі). Далей ідуць жыллёва-камунальная гаспадарка і транспарт, фінансавыя паслугі. Гэта тыя сферы, дзе судзіцца цяжка, прынамсі, па жыллёва-камунальных паслугах. Пакуль закон не запрацуе як след, пакуль у нас у краіне не будзе канкурэнцыі, а значыць — права выбару, для спажыўца мы будзем якраз тым звяном, якое будзе дапамагаць яму абараняць свае правы. Вельмі хацелася б, каб людзі іх ведалі.

**Пытанні задавалі Надзея НІКАЛАЕВА і Сяргей РАСОЛЬКА.**

# «УСЁ ЁСЦЬ ЯД, І НІШТО НЕ ПАЗБАЎЛЕНА ЯДАВІТАСЦІ»

**Парацэльс, XV—XVI стст.**



**Апошнім часам з'явілася ў крамах шмат прадуктаў, прывезеных з-за мяжы. У прыгожых пакунках, смачна і зручна. Але, але... Колькі разоў у прэсе з'яўляліся матэрыялы пра шкоднасць некаторых харчовых дабавак, якія выкарыстоўваюцца пры прыгатаванні гэтых прадуктаў. І колькі лістоў мы ўжо атрымалі ад вас з просьбай растлумачыць, што можна ўжываць, а што — не. Асабліва турбуюць вас дабаўкі з літарай Е.**

**З гэтым пытаннем і звярнуліся мы ў Беларускі навукова-даследчы санітарна-гігіенічны інстытут, у лабараторыю гігіены харчавання і харчовай таксікалогіі.**

Як патлумачыла мне галоўны спецыяліст па гігіене харчавання Міністэрства аховы здароўя РБ Ірына Кедрава, ва ўсіх краінах, у тым ліку і СНД, застаецца ў сіле прынцып: як бы выгадна ні было прымяненне харчовай дабаўкі, яна можа быць уведзена ў практыку толькі пры пацвярджэнні поўнай бясшкоднасці для насельніцтва (гэта значыць адсутнасць таксічнага, канцэрагеннага, мутагеннага і іншых адмоўных уплываў на арганізм).

Існуе міжнародная сістэма нумарацыі харчовых дабавак, згодна з якой кожнай дабаўцы прысвоены лічбавы трох- ці чатырохзначны код. Пры гэтым у краінах Еўрапейскага супольніцтва распрацавана і апрабавана сістэма лічбавага кадзіравання харчовых дабавак з літарай Е (Еўропа). Коды выкарыстоўваюцца толькі ў спалучэнні з назвамі функцыянальных класаў (напрыклад: антыакісляльнік, фарбавальнік, эмульгатар і г. д.).

Цяпер, шаноўныя чытачы, непасрэдна да вашага пытання. Харчовыя дабаўкі з літарай Е ў колькасці, якая можа прывесці да ўзнікнення ракавых пухлін, захворванняў унутраных органаў і г. д., да выкарыстання дапушчаны быць проста не могуць. Што датычыцца алергіі, то індывідуальная неўспрымальнасць розных прадуктаў, у тым ліку нават натуральных, зараз вельмі распаўсюджана. Ва ўмовах парушэння імуннага статусу ўжыванне прадуктаў з харчовымі дабаўкамі можа справакаваць з'яўленне алергічнай рэакцыі, асабліва калі іх выкарыстана зашмат.

З розных выданняў, і беларускіх, і расійскіх, вы маглі ўзяць адваротную інфармацыю, але ў асноўным гэта тыражаванне аднаго і таго ж матэрыялу пад назвай «Прадуктовы генацыд» (магчымы варыяцыі), што з'явіўся колькі гадоў таму ў газеце «Мегаполіс». Звярніце ўвагу: у ім няма ніводнай спасылкі, ніводнага подпісу. Тым не менш, у артыкуле ўказаны цэлы шэраг «шкодных», «вельмі шкодных», «ракаўтваральных» дабавак, сярод якіх, між іншым, Е 150 — карамель, Е 152 — вугаль, Е 330 — лімонная кіслата і іншыя. Дык ці варта давяраць гэтым звесткам?

У заключэнне хачу дадаць, што ўказанне кампанентнага саставу на пакунках — не клопат пра гасцей СНД з-за мяжы, а патрабаванне міжнародных стандартаў. У ранейшыя гады айчынная прадукцыя не мела адпаведнай маркіроўкі, таму мы не прызвычаены да такой падрабязнай інфармацыі, хаця харчовыя дабаўкі, што выконваюць самыя розныя функцыі, выкарыстоўваліся і раней.

Як казаў знакаміты ўрач старажытнасці Парацэльс (XVI ст.), «Усё ёсць яд, і нішто не пазбаўлена ядавітасці». У ролі яду можа аказацца практычна любое хімічнае спалучэнне, што трапіць у арганізм у колькасці, якая здольна выклікаць парушэнні жыццёва важных функцый і стварыць небяспеку для жыцця. Вызначыць бяспечную дозу — гэта і ёсць задача таксіколагаў. У ідэале, натуральна, было б вельмі нядрэнна спажываць прадукты, якія ўвогуле не ўтрымліваюць харчовых дабавак. Сёння гэта, безумоўна, вельмі складана, і тым не менш, перш чым купіць сухі канцэнтрат напою з падсаладжвальнікамі, падумайце: а можа, лепш садавіна? А замест любімай каўбасы — проста кавалак мяса?..

**Яна САВІЦКАЯ.**

# ДОБРАЯ ЧАРКА ДРЭННАГА ВІНА

**«КОТ У МЯШКУ», якога рызыкуе кожную гадзіну набыць беларускі спажывец, колькі аб ім ні гаварылі, не перастане быць злабадзённай з'явай. За бяспеку і здароўе пакупніка спрабуюць змагацца многія дзяржаўныя органы і структуры, але парушэнняў правілаў гандлю, на жаль, менш не становіцца.**

У кастрычніку гэтага года сумесны «ўдар» па сталічных прадпрыемствах гандлю і грамадскага харчавання абрынуўся з боку санітарных службаў горада і аддзела па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю УУС Мінгарвыканкома. Мэтай рэйду на гэты раз стаў кантроль за якасцю рэалізуемых у сталіцы спіртных напояў. У выніку, у 17 з 54 правераных аб'ектаў былі выяўлены розныя парушэнні.

Так, у некалькіх гандлёвых кропках без дакументаў, якія пацвярджаюць іх якасць, рэалізоўваліся каньяк «Глорыя», віно шыпучае «Yves Roche...», бальзам «Мінскі», гарэлка «Baren Ycmon». З прайшоўшым тэрмінам годнасці пакупніку прапаноўваліся каньяк «Арарат» і віны «Кампары»... Па прычыне адсутнасці сертыфікатаў пад часовы «арышт» трапілі знятыя з рэалізацыі ў кафэ-бары «Бігс» лікёры з шыкоўнымі назвамі «Цэзар», «Цэзар Класік», «Шэры», «Шэры барон», «Ла Брукса».

Выяўляліся таксама выпадкі рэалізацыі лікёра-гарэлачных вырабаў, якія не адпавядаюць патрабаванням ДАСТа па ўтрыманню сівушнага алею, а таксама з масавай канцэнтрацыяй цукру. На жаль, у двух выпадках забракаваць вышэйназваную прадукцыю не было магчымасці: партыя арыгінальнай гарэлкі «Беларуская гародня» (12 тысяч бутэлек) і 1200 бутэлек віна «Водар мяты» вытворчасці завода харчовых прадуктаў г. п. Падсвілле (Віцебская вобл., Глыбоцкі р-н) ужо знайшлі сваіх пакупнікоў.

Здаецца, сёння можна набыць ката не толькі ў мяшку, але і ў бутэльцы, а славутая назва напою нічога нікому не гарантуе...

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

# КІРМАШ

## ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК

**№ 45 (64)**



### ДА ЎВАГІ ФІЛАТЭЛІСТАЎ!

Працягваецца падпіска на абанементнае абслугоўванне знакамі паштовай аплаты Рэспублікі Беларусь і Расіі.

Па абанементу гарантуецца атрыманне ў 1997 годзе да 5 экз. выпускаемых у абарот паштовых марак і блокаў, паштовых картак, канвертаў «Першага дня» і канвертаў з арыгінальнымі маркамі.

Абанемент, выдадзены на працягу гэтага года, дае права на атрыманне дзяржаўных знакаў паштовай аплаты не раней як праз 60 дзён з моманту яго афармлення.

**РА «Белпошта».**



Украденную *печать* ***ООО «Таймспорт»*** считать ***недействительной.***

**ТЭАТР «ВОЛЬНАЯ СЦЭНА»**

*5 снежня*
**«Брат мой Сымон»**

*6 снежня прэм'ера*
**«Заложніца кахання»**

*8 снежня прэм'ера*
**«Макбет»**

***Пачатак спектакляў у 19 гадзін.***

**Тэл. для даведак 234-60-08.**

## ВІНШУЕМ!

*Віншуем старшыню Казловіцкага сельскага Савета **Уладзіміра Ільіча Пышніка** з днём нараджэння. Жадаем моцнага здароўя, шчасця, поспехаў у працы.*

**Калектыў работнікаў Казловіцкага с/Савета.**

*Сардэчна віншую **Сяргея Бялевіча** з г. Слуцка з днём нараджэння. Здароўя табе, сынок, шчасця, радасці, поспехаў у вучобе.*

**Мама.**

*Віншуем з днём нараджэння **Галіну Вікенцьеўну Сянчук**. Жадаем здароўя, шчасця, радасці, поспехаў у працы.*

**Паштавікі Астрашыцкага Гарадка.**

*Віншуем з днём нараджэння **Аляксандру Русенчык, Віталію Упораву** з г. Барысава. Жадаем вам бадзёрасці, весялосці і шчасця на ўсё жыццё. Мы вас кахаем. Чакайце нас.*

**Русенчык Аляксандр, Лабаноўскі Міхаіл,** *г. Жодзіна.*

*Віншуем з днём нараджэння любую дачушку і ўнучку **Юлечку Бадзяк.** Зычым здароўя, шчасця і радасці на ўсё жыццё.*

**Мама, тата, дзядуля і бабуля,** *г. Гродна.*

*Віншуем з 40-годдзем **Святлану Трапянок** з Асіповіч. Жадаем моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця.*

**Сям'я Батураў.**

*Віншуем з днём нараджэння любых нам жонку і матулю **Алу Міхайлаўну** і **Галіну Васільеўну Чыберыных.** Жадаем ім чыстага неба, духмянага хлеба, крынічнай вады і ніякай бяды, моцнага здароўя і плённай працы.*

**Муж, дзеці, унукі,** *в. Гальчыцы.*

*Віншую з днём нараджэння любую матулю **Ірыну Рагулевіч.** Жадаю шчасця, здароўя, дабрабыту.*

**Сын Дзіма,** *г. Маладзечна.*

*Віншуем нашу дарагую мамачку **Марыю Мікітаўну Парфімовіч** з днём нараджэння! Жадаем моцнага здароўя, дабрабыту і спакою.*

**З любоўю — дзеці і ўнукі,** *в. Любно.*

*Віншуем дарагую матулю і бабулю **Галіну Ігнатаўну Капцюг** з юбілеем. Жадаем шчасця, здароўя без лекаў, дабра, і спакою, і доўгага веку.*

**Дачка Вольга, зяць Васіль, унук Сярожа,** *г. Вілейка.*

*Віншую з днём нараджэння **Марыю Іванаўну Ефімовіч** з в. Вішавічы Пінскага раёна. Любая матулька, жадаю моцнага здароўя, шчасця на доўгія гады.*

**Сын Юрась.**

*З юбілейным днём нараджэння, **Марыя Іванаўна Украінец.** У гэты светлы дзень жадаем табе здароўя, шчасця, дабра і доўгіх гадоў жыцця.*

**Родныя і сябры,** *г. Пінск.*

## ЗВЯЗДА

### Купон для бясплатнай прыватнай аб'явы

**для тых, хто падпісаўся на нашу газету.**

**Выражце, запоўніце разборліва і вышліце на адрас рэдакцыі**

| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |

**Звесткі не для друку: ваша прозвішча, адрас, хатні тэлефон.**
**Адрас рэдакцыі: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 А.**
**Тэлефон для даведак 268-28-77.**

## Ці будзе зніжана стаўка рэфінансавання

**У апошні час ва ўладных структурах ажыўлена абмяркоўваецца праблема стаўкі рэфінансавання. Гучаць заклікі ўстанавіць яе з 1 снежня гэтага года на ўзроўні 24 працэнтаў. Аб магчымых наступствах такога рашэння па просьбе рэдакцыі расказвае загадчык прэс-службы Нацыянальнага банка Алесь Макоўскі.**

Бадай, спачатку трэба сказаць колькі слоў аб тым, што ўяўляе сабой стаўка рэфінансавання. Гэта працэнтная стаўка, па якой Нацбанк прадастаўляе свае рэсурсы камерцыйным банкам. Апошнія ў сваю чаргу будуюць працэнтную палітыку такім чынам, каб не працаваць стратна. Растлумачым гэта на такім прыкладзе. У верасні гэтага года пад ціскам дзяржаўных органаў Нацыянальны банк знізіў стаўку рэфінансавання з 55 да 35 працэнтаў. Якія гэта мела наступствы?

Па-першае, ва ўсіх банках літаральна на вачах былі зніжаны працэнтныя стаўкі па ўкладах насельніцтва ў сярэднім на 10 працэнтаў. Па рахунках «да запатрабавання» сёння выплачваецца 1 працэнт у месяц (12 працэнтаў гадавых). Месячная ж інфляцыя значна вышэйшая за 1 працэнт стаўкі на ўклады «да запатрабавання». Дарэчы, Нацыянальны банк прапаноўваў Кабінету Міністраў павысіць узровень працэнтных ставак па тэрміновых дэпазітах грамадзян, аднак ініцыятыва не была падтрымана.

Па-другое, як і трэба было чакаць, насельніцтва краіны аператыўна адрэагавала на зніжэнне ставак па дэпазітах. Пры росце сукупнай грашовай масы за верасень-кастрычнік на 8 працэнтаў дэпазіты насельніцтва ў нацыянальнай валюце знізіліся на 8,5 працэнта. Людзі кінуліся здымаць грошы, закрываць свае рахункі. Банкі вымушаны былі вярнуць насельніцтву 509 мільярдаў рублёў. І гэта ў той час, калі ў наяўным грашовым абарачэнні сёння знаходзіцца 6,1 трыльёна рублёў.

Вядома ж, такая структура грашовай масы негатыўна ўплывае на стан крэдытных рэсурсаў банкаўскай сістэмы, на здольнасці банкаў крэдытаваць народную гаспадарку.

Трэці адмоўны момант зніжэння стаўкі рэфінансавання — пагаршэнне становішча спраў на валютным рынку. Аб'ём заявак на валюту пастаянна ўзрастае, у абменных пунктах чэргі, купіць валюту немагчыма, актывізаваўся «чорны рынак».

## АБ СІТУАЦЫІ ВАКОЛ ВАЛЮТНАЙ БІРЖЫ

***У апошні час з'явілася мноства крыватолкаў вакол законнасці пераўтварэння Міжбанкаўскай валютнай біржы. Рэдакцыя звярнулася па каментарый да начальніка юрыдычнага ўпраўлення Нацыянальнага банка Беларусі Валянціна ШУКЛІНА.***

**— Валянцін Зосімавіч, не раз даводзілася чуць, што Указы Прэзідэнта № 88 ад 28 лютага 1996 г. «Аб вызваленні У. Бірука ад пасады генеральнага дырэктара закрытага акцыянернага таварыства «Міжбанкаўская валютная біржа» і № 139 ад 9 красавіка 1996 г. «Аб пераўтварэнні закрытага акцыянернага таварыства «Міжбанкаўская валютная біржа» пацягнулі парушэнне законаў «Аб акцыянерных таварыствах, таварыствах з абмежаванай адказнасцю і таварыствах з дадатковай адказнасцю» і «Аб уласнасці ў Рэспубліцы Беларусь».**

— Гэтыя Указы Прэзідэнта паслужылі падставай для разгляду ўзнятых у іх пытанняў сходам акцыянераў ЗАТ «Міжбанкаўская валютная біржа» і Нацыянальным банкам Беларусі. Сход акцыянераў біржы 20 верасня гэтага года прыняў рашэнне аб рэарганізацыі біржы, звальненні генеральнага дырэктара і перадачы актываў і пасіваў Нацыянальнаму банку. Зроблена гэта ў поўнай адпаведнасці з названымі вамі законамі. Пасля прыняцця гэтых рашэнняў Нацыянальны банк, маючы на тое дадатковыя паўнамоцтвы, пачаў выконваць даручэнні Прэзідэнта Беларусі.

**— Тым не менш, былы генеральны дырэктар біржы У. Бірук у сваім звароце ад 2 кастрычніка сцвярджаў, што ЗАТ МВБ працуе, ім прымаюцца меры па правядзенню інвентарызацыі маёмасці і падрыхтоўцы акта перадачы спраў.**

— Гэта сцвярджэнне не адпавядае рэчаіснасці. Акцыянерамі біржы спадару Біруку не даваліся даручэнні ажыццявіць названыя меры. Сходам акцыянераў, вышэйшым органам кіравання таварыства, было прынята рашэнне пагадзіцца з тым, што Нацыянальны банк ажыццяўляе выкананне ўказаў Прэзідэнта, пераўтварыўшы ЗАТ «Міжбанкаўская валютная біржа» ў дзяржаўную ўстанову і вызваліўшы У. Бірука ад пасады генеральнага дырэктара біржы. Сход акцыянераў таксама даручыў Нацбанку, як акцыянеру таварыства, правесці перадачу маёмасці біржы Нацыянальнаму банку Беларусі. 24 верасня прадстаўнік Нацыянальнага банка М. Лузгін, выбраны саветам акцыянераў старшынёй савета ЗАТ МВБ, перадаў актам прыёму-перадачы актываў і пасіваў маёмасці таварыства камісіі Нацбанка. У той жа дзень камісія перадала гэту маёмасць па акту дырэктару дзяржаўнай установы «Міжбанкаўская валютная біржа» А. Сапунову. Такім чынам, пытанне аб перадачы маёмасці было канчаткова вырашана.

**— Прыходзілася чуць ад юрыстаў, што здзелкі, заключаныя генеральным дырэктарам, назначаным Прэзідэнтам, ці дырэктарам, назначаным Нацыянальным банкам, як незаконнымі кіраўнікамі ЗАТ МВБ могуць быць прызнаны несапраўднымі.**

— Гэта сведчаць аб тым, што аўтары чутак зусім не валодаюць сітуацыяй на біржы. Ні Бялоў, ні Сапуноў не назначаліся кіраўнікамі ЗАТ МВБ і здзелак ад імя таварыства не ажыццяўлялі. Яны былі назначаны кіраўнікамі дзяржаўнай установы і дзейнічалі ў адпаведнасці з паўнамоцтвамі, дадзенымі ім наймальнікам — Нацыянальным банкам.

**— У сваім звароце У. Бірук выказвае заклапочанасць наконт абароны працоўных правоў работнікаў ЗАТ.**

— У сувязі з асаблівасцямі пераўтварэння ЗАТ у структурнае падраздзяленне Нацыянальнага банка ўзніклі некаторыя складанасці з аплатай працы былых работнікаў таварыства ў дзяржаўнай установе. Цяпер, па ўзгадненню з Міністэрствам працы Рэспублікі Беларусь, гэтыя праблемы ўрэгуляваны.

У заключэнне хачу падкрэсліць, што пераўтварэнне Міжбанкаўскай валютнай біржы праведзена ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, сёння яна, як дзяржаўная ўстанова, працуе ў нармальным рэжыме.

## ПРАДАЕЦЦА:

- аўтамабіль «ВАЗ-2101», 71 г. в., на ходу, за 500 $ у в. Морач Клецкага раёна — за 500 $.
  *Тэл. (8-293) 33-3-81*
- рухавік да «Масквіча-408», пасля капітальнага рамонту; засцярога да пярэдніх колаў «Масквіча». Пасёлак Навагарадзейскі.
  *Тэл. у Нясвіжы 5-73-59.*
- аўтамабіль Урал-43203 «Кунг», дызель 91 г. в., прабег 50 тыс. км.
  *Тэл. у Міёрах 2-28-31, вечарам.*
- машына пральная «Фея», новая.
  *Тэл. у Мінску 239-74-84.*
- ацяпляльны кацёл «АОТВ-232» на цвёрдым паліве.
  *Тэл. (8-01771) 76-2-64*
- прычэп гандлёвы (Германія) — за 1150 $; матацыкл МТ 10, прабег 19 тыс. км — 250 $.
  *Тэл. у Браславе (8-02153) 21-2-01.*
- «Масквіч-2140». 82 г. в., прабег 66 тыс. км, патрабуе рамонту, танна.
  *звяртацца: г. Валожын, зав. Юбілейны, д. 11. Раб. тэл. 55-9-58, Матус.*
- «ЗАЗ-968», 30 к/с, на запчасткі ў Клімавіцкім раёне.
  *Тэл. 23-7-91.*
- «ВАЗ-21063» 87 г. в., у добрым стане; «УАЗ-452Д», бартавы, танна.
  *Тэл. у Полацку (8-02144) 6-86-57.*
- уцяпляльнік капота для МТЗ.
  *Тэл. у г. Мінску 258-71-71.*
- кажух мужчынскі, светлы, памер 50, рост 2.
  *Тэл. у г. Мінску 221-53-78.*
- тэлевізар «Гарызонт», ч/б, на запчасткі.
  *Звяртацца: Бярэзінскі раён, тэл. 57-3-01.*
- новы вагон-магазін, 1500 $.
  *Тэл. у г. Віцебску (8-0212) 61-91-92.*
- дом драўляны з гаспадарчымі пабудовамі ў Ваўкавыску, танна.
  *Тэл. у Ваўкавыску 32-0-87*
- бык па закупачнай цане
  *Дзяржынскі раён, в. Васілёўшчына, 10. Тэл. у г. Мінску 271-18-01.*
- жаробка 2,5 года, або мяняю на кабана; конь, 3 гады (абучаны).
  *Слуцкі раён, тэл. 77-3-05.*
- швейная машына (вытворчасць Германіі), новая.
  *Тэл. у Вілейцы 44-3-19, пасля 19.00.*
- кватэра 4-пакаёвая па вул. Кіжаватава, тэл., прыватызаваная, ізаляваныя, альбо разменьваецца.
  *Тэл. 253-72-50*
- прадаю або мяняю дом з гаспадарчымі пабудовамі і зямельным участкам.
  *Звяртацца ў Вілейку, тэл. 44-3-19.*
- дом у в. Вуглы Брагінскага раёна пад дачу (28 кв. м), танна.
  *Тэл. (8-233)4-11-11 з 11.00 да 13.00.*
- катэдж 115 кв. м, гаспадарчыя пабудовы, прыродны газ, вада, тэлефон, 15 сотак зямлі ў в. Германішкі (3 км ад Воранава), танна.
  *Тэл. 77-2-98.*
- дом у Глыбоцкім раёне, ёсць сад, участак 30 сотак, возера, лясок.
  *Тэл. (8-256)3-80-16 з 9.00 да 12.00*
- дом з усімі выгодамі плошчай 120 кв. м. участак 18 сотак, хлеў, лазня, 2-этажная летняя кухня з пограбам у в. Вавёрка Лідскага раёна.
  *Тэл. 71-2-23 з 18.00 да 20.00.*
- сінтэзатар FUJIYA MC-3A
  *Звяртацца: г. Ліда, тэл. 4-27-93.*
- новы дом у прыгарадзе Баранавіч (сад, 30 сотак, старая хата, тэл.), танна.
  *Тэл. (8-01562) 3-22-58, пасля 18.00.*

## РОЗНАЕ

- Мяняю «Фольксваген-Джэта» 84 г. в. карб. на «Т-25» з навяснымі прыстасаваннямі.
  *г. Ваўкавыск, тэл. 32-0-87.*
- Мяняю 2-пакаёвую кватэру (4 паверх 9-павярховага дома) з тэлефонам на 2-,1- пакаёвую з тэлефонам у Мінску.
  *г. Светлагорск, тэл. 2-29-51.*
- Прапаную работу на даму: канцылярская і агент па збору бясыравіны. Ад вас канверт са зваротным адрасам. Падрабязнасці ў пісьме.
  *Звяртацца: 213655 Магілёўская вобл., Касцюковіцкі раён, п/а Вялікая Крапіўня. Да запатрабавання Глушакову І. А.*
- Мяняю 3-пакаёвую кватэру ў г. Рось Гродзенскай вобласці на кватэру ў Брэсцкай вобласці, альбо прадам.
  *Тэл. (8-01644) 2-5904.*
- Аказваем аўдытарскія паслугі.
  *Тэл. 227-94-46.*

# БЯДА

**Гэта было падобна на выбух. Не на такі, калі рушыцца дом ад бомбы ці землятрусу. Было адчуванне, што пацярпела мноства сем'яў адначасова, з розных дамоў, што выбух падарваў цэлы горад, усю краіну. Выбух здарыўся летам гэтага года, калі рэзка ўзрасла выяўляльнасць віруса СНІДу сярод наркаманаў. Да сярэдзіны 1996 года ў Беларусі было зарэгістравана ўсяго 130 выпадкаў ВІЧ-інфекцыі. За ўвесь мінулы год было выяўлена 10 вірусаносьбітаў. На 25 лістапада гэтага года ў нашай краіне ўстаноўлены 964 ВІЧ-інфіцыраваныя (у тым ліку па першапачатковых лабараторных даследаваннях). 829 выпадкаў прыпадае на Гомельскую вобласць. У адным толькі Светлагорску на ўліку 714 ВІЧ-інфіцыраваных. Але далёка не ўсё тайнае яшчэ стала яўным. І наўрад ці носьбіт зла XX стагоддзя затрымаецца толькі ў адным кутку Беларусі.**

# ГОРАД ЗЛОГА ДЭМАНА

***«... Ён нарадзіўся з цемры. Ён ўзняўся на ўвесь рост — высокі, вытанчаны, статны — і спакойна, упэўнена вымавіў: «Я ўжо прыйшоў. Я сярод вас. І перш чым нехта возьмецца ратаваць гэты свет, я зраблю сваю справу». Ён не выглядае як пачвара са штучна створанай камп'ютэрам жахлівай грымасай, у яго няма клыкоў ці вострых кінжалаў-кіпцюроў, як у носьбітаў сіл зла з галівудскіх фільмаў. Ён хутчэй падобны на прыгожага маладога чалавека з ільнянымі непаслухмянымі віхрамі і лагоднай сяброўскай усмешкай. Вось хіба што погляд, палаючы апантанасцю, ды пальцы, у якіх не адчуваецца пульсацыі жыцця, выдаюць гэтага чорнага чалавека...»***

## На другім баку жыцця.

— Калі б я ствараў фільм пра барацьбу дабра са злом, пачатак выглядаў бы менавіта так,— кажа мой суразмоўца.— Зло звычайна маскіруецца — у прыгожым, прыемным. У тым, што можа парадаваць чалавека ці прынесці яму задавальненне.

Я не спрачаюся. Бо ведаю, што зло да кожнага прыходзіць у пэўным абліччы, у рознай вопратцы. А гэты чалавек ужо некалькі гадоў трымае зло ў сваіх руках. А яно жудасней за самыя жахлівыя фільмы. Таму што пасяляецца незаўважна. І ніхто з навакольных звычайна не можа адразу заўважыць, што з чалавекам адбываецца нешта не тое. Мой суразмоўца — наркаман.

Андрэю зараз 36 гадоў, ён прыехаў у Мінск на лячэнне ў наркалагічнае аддзяленне. Ён не верыць, што гэта лячэнне яго выратуе. Ён не думае, што ў яго выпадку гэта ўвогуле магчыма. Але за яго душу вельмі змагаюцца родныя, таму ён спрабуе лячыцца зноў.

Ён наркаман са стажам, а паспрабаваў упершыню ў арміі. Служыць давялося на Далёкім Усходзе, там праблем са здабычай наркотыкаў не было, уся рота «балавалася» паціху. За падначаленымі пільна ніхто не сачыў — у авіяцыі галоўнае, каб самалёты ўзляцелі. А ў салдат служба ішла...

Андрэй нервова перабірае пальцамі. Яны ў яго тонкія, чуйныя. Пальцы, вартыя мастака. Ён скончыў мастацкае вучылішча. Яго творы даволі няблага прадаюцца, нават за мяжу ездзіў з выставамі. Зараз, кажа, пра творчасць амаль не думае. Калі стварыў нешта сапраўды вартае? Калі цябе круціць, калі няма сіл жыць, думка толькі адна — хутчэй укалоцца. За шаблонны пейзажык, які не патрабуе душэўных намаганняў (ды дзе ж іх узяць?) атрымлівае дастаткова грошай на свае патрэбы. На першым месцы сярод патрэб стаіць «шырка». Яшчэ былую жонку з дзесяцігадовым сынам падтрымлівае матэрыяльна.

Яны разышліся, калі ёй ужо стала зусім немагчыма бачыць яго пакуты. І дапамагчы — таксама немагчыма. Дзіўна, што сама не ўцягнулася ў гэтую справу, як бывае даволі часта. Аднойчы застала яго, спытала, ці можна паспрабаваць. Проста з жаночай цікаўнасці. Ён стрымаў, бо ведаў, што цікаўнасць вядзе да страшнай хваробы, якую выгнаць з цела практычна немагчыма.

Бывае такое, што Андрэй шчыра збіраецца кінуць. Бывае адчуванне, што рушыцца жыццё. Побач пакутавалі родныя, гледзячы на яго. Уласнае цела падпарадкоўвалася ўжо не яму, а нябачнай істоце, якая біла, катавала, нявечыла свядомасць. Штодзённая доза даходзіла да ашаламляльнай лічбы: ён уводзіў па 25 кубікаў запар, што амаль у дзесяць разоў болей за першапачатковую дозу. А ўвогуле, для здаровага чалавека гэта азначала б смерць.

Першы раз пасля лячэння трымаўся восем месяцаў. Працаваў тады камерцыйным дырэктарам фірмы, атрымліваў добрыя грошы. Жыццё закруцілася па-іншаму. Ізноў з'явіліся нармальныя пачуцці: радасць, занепакоенасць, захапленні — прырода, жанчыны, мастацтва, кіно, рэстараны...

Пасля адной удалай здзелкі зарабіў вялікія грошы — купіў кватэру, дачу, бацькам, сёстрам падарункі. Тады ж сустрэў былога знаёмага, у якога аказалася 70 шклянак маку. Ну што было рабіць? Як тут утрымацца, ды яшчэ маючы грошы?

Калі прыходзіў у бальніцу другі раз «раскумарыцца», ужо не было ілюзій, што здолее пратрымацца хоць трохі. «Пераламаўся», збіў дозу, так. Але ўкалоўся ў той жа дзень, як выйшаў з бальніцы.

Зараз цяжка ўявіць, што ён некалі займаўся каратэ і быў спартыўным хлопцам.

Цяжка ўсвядоміць, што з усіх рэлігій аддае перавагу буддызму — настолькі несумяшчальнае паняцце «нірваны», выведзенае Гаўтаамай Будай, з тым правалам у «кайф», які дае опій. А ён кажа, з дапамогай наркотыкаў лягчэй медыцыраваць. Ён лічыць, што толькі сам распараджаецца сваім жыццём.

Некалькі разоў прымаў рашэнне скончыць пакуты назаўсёды. Два разы знаходзіўся ў стане клінічнай смерці. Нічога, перажыў. Аднойчы разам з сябрам сабраліся «кінуцца», пусцілі сабе «залатую кулю». Такую дозу, якая павінна была абарваць усё. Ранкам прачнуліся, як быццам бы нічога і не было. Яшчэ раз — уратавала маці. Увайшла ў хату, калі сын быў чорны. А ён не адчуваў ні «кайфу», ні жыцця, ні страху і мітусні, якія адбываліся навокал. Ачуняў — побач людзі ў белым. Аказалася, зноў уратавалі.

— Ты не думаеш, як будзе адчуваць сябе твой сын, калі вырасце і даведаецца пра тваё жыццё?

— Я да таго часу не дажыву...

Ён схіліў галаву. Я першы раз бачу чалавека, які зусім не хвалюецца за сваё жыццё.

— Зразумейце, ну чаго нам баяцца? Калі любы ўкол можа стаць апошнім. Кожны мае спецыяльную заточаную лыжку — калі зусім немагчыма будзе змагацца з чорнай сілай ломкі, цярпець боль, яна дапаможа паласнуць па венах. Наркаманы доўга не жывуць, дык чаго нас пужаць СНІДам?

Спрабую напомніць, што ад гэтага можа пацярпець усё грамадства, калі кожны будзе думаць пра смерць, што ж тады ад нас усіх застанецца. «Што?» — шчыра не разумее маёй заклапочанасці Андрэй. Ён не думае пра гэта. Ён сам па сабе. Ён толькі можа пакінуць сляды на гэтым свеце. Якія?..

## Прыйшла бяда — адкрывай вароты

І мы адкрылі. Спачатку адкрылася для многіх тое, наколькі прыжылася сярод нас хвароба наркаманіі. Потым даведаліся, што сярод іх яшчэ гуляе вірус. Выбух прагрымеў у Светлагорску. А яго адгалоскі яшчэ і цяпер чуюцца па ўсёй Беларусі.

Невялікі, але вельмі перспектыўны горад Светлагорск узнік дзеля Надзеі. Ён сапраўды малады і па свайму ўзросту, і па сярэдняму ўзросту яго жыхароў — трохі болей за трыццаць.

На пачатку 80-х гадоў прыехаў у горад першы наркаман — з Ленінграда. Пазнаёміў з макам іншых. Хвароба сярод моладзі нарастала, як снежны камяк. Зараз на афіцыяльным уліку у гарадскім дыспансеры іх 500 чалавек. Але па ацэначных даных прадстаўнікоў Сусветнай арганізацыі аховы здароўя іх там не меней чым 5-6 тысяч. Лічба унушальная для горада з насельніцтвам каля васьмідзесяці тысяч. Пры тым, што ў асноўным наркотыкі ўжываюць маладыя людзі ва ўзросце ад 15 да 27 гадоў.

Яны збіраюцца групкамі на пэўных кватэрах, дзе з макавай саломкі рыхтуюць сабе варыва. Па характэрных пахах, якія стаяць у пад'ездзе, можна вызначыць, што ў доме ёсць наркаманы. Яны клапоцяцца адзін пра аднаго: часам у пэўным месцы (напрыклад, у электрашчыце) схаваны шпрыц, які пры неабходнасці кожны можа і скарыстаць. Адзін на ўсіх. А не так даўно гатовыя наркотыкі сталі прадаваць прама ў шпрыцах. Прытым невядома, колькі рук пракалола яго іголка да гэтага. Але яны і не надта цікавяцца. Патрэбу ў наркотыку даволі груба можна параўнаць з пачуццём голаду. Калі чалавек галодны, то ён можа цярпець нейкі час, але потым усю ягоную свядомасць запаўняе адна думка — дзе б паесці. Адна доза каштуе 30—40 тысяч, калі раз у дзень ужываць, ды не па адной, вялікія грошы патрабуюцца. Браць іх звычайна няма адкуль, мала хто з наркаманаў працуе і можа забяспечваць свае патрэбы. Таму прыкладна 70 працэнтаў кватэрных крадзяжоў у горадзе адбываюцца з удзелам наркаманаў.

Некаторыя бацькі не вельмі цікавяцца, чым забаўляюцца іх дзеці. Магчыма, часткова гэтым можна растлумачыць, чаму яны становяцца наркаманамі. Некаторыя, даведаўшыся, упадаюць у шок. Але спрабуюць змагацца за сваё дзіця. Менавіта мама прывезла ў 37-е аддзяленне рэспубліканскай псіхіятрычнай бальніцы свайго сына, дзе ў яго быў выяўлены вірус СНІДу. Хлопец потым прывёз у бальніцу сваю жонку, таксама наркаманку. І яе чакаў страшны рэзультат аналізу. Толькі дзяўчына не асабліва перажывала, маўляў, у нас на могілках многа маладых ляжыць...

Калі ў наркамана выяўляюць СНІД, яго спрабуюць пераканаць, што ёсць магчымасць працягнуць жыццё, толькі пры адной умове: зусім адмовіцца ад наркотыкаў. Яны быццам бы і не супраць.

— Гэта хвароба, як любое псіхіятрычнае захворванне, пазбаўляе чалавека нармальнага крытычнага асэнсавання свайго стану, — тлумачыць Дзмітрый Сташкевіч, галоўны ўрач 37-га аддзялення рэспубліканскай псіхіятрычнай бальніцы. — Чалавек можа пратрымацца нейкі час, але ў пэўны момант знойдзе любую нагоду, каб укалоцца зноў: кінула дзяўчына, няма працы, сумна жыць ці нават проста «забалеў зуб». Бывае, што, ужо пад'язджаючы да Светлагорска, у іх узнікаюць некаторыя прыметы ломкі — насмарк, слёзы. Магчыма, устанавіўся ўмоўны рэфлекс на сам горад. А потым яны трапляюць у тое ж асяроддзе. Ізноў не могуць працаўладкавацца, ізноў нуднае, нецікавае, не насычанае падзеямі жыццё маленькага горада робіць сваю справу: яны не могуць знайсці, чым заняцца. І вяртаюцца на вядомы шлях.

Нават тыя, у каго выяўлены вірус СНІДу, не надта імкнуцца змяніць жыццё. А іх сяброў таксама не стрымлівае няшчасце іншых. Аднаму хлопцу неадкладна патрэбна было зрабіць укол, ён прыбег да знаёмага: тэрмінова патрэбны шпрыц. Той здзівіўся: «Ты ж ведаеш, што я інфіцыраваны». — «Не мае значэння». Боль мацней за страх. Боль мацней, чым страх за родных. У Светлагорску ўжо ёсць выпадкі, калі вірус СНІДу быў выяўлены ў жанчын, якія паступалі ў радзільнае аддзяленне. Што чакае іх дзяцей, аднаму Богу вядома.

Горад быццам бы жыве сваім нетаропкім жыццём. Але клопат пра будучыню, пра Надзею, дзеля якой ён узнік, сабраў тут улетку расшыраную нараду гарвыканкома з удзелам прадстаўнікоў міністэрстваў і ведамстваў рэспублікі, куды прыязджаў прадстаўнік ААН Леў Хадакевіч, рэгіянальны каардынатар па Малдове, Украіне, Беларусі. Выснова: распаўсюджванне СНІДу набыло эпідэмічны характар. Сэнс усёй работы з наркаманамі заключаецца ў тым, каб навучыць іх бяспечна ўводзіць наркотыкі. Калі немагчыма спыніць іх далейшае распаўсюджанне сярод моладзі.

Свет ужо занепакоены сітуацыяй у нашым грамадстве. Ці ўсвядоміў кожны з нас, што небяспека побач?

## Ананімы? Прымаюцца!

У ананімнага кабінета Рэспубліканскага цэнтра прафілактыкі СНІДу свой лёс, які, вядома ж, залежыць ад стану, надзей, трывог людзей, што сюды звяртаюцца. У мінулым — прымалі кожнага, хто пасля доўгіх ваганняў і бяссонных начэй усё ж рашаўся абследавацца на СНІД, і былі рады супакоіць: хваляванні дарэмныя, жыццю нічога не пагражае. Хоць пра небяспеку нагадвалі. Да сярэдзіны 1996 года за ўвесь час работы праз ананімны кабінет былі выяўлены ўсяго два выпадкі заражэння вірусам.

Зараз у жыцці кабінета болей драм, зараз тут баяцца не супакоіць, а зусім наадварот... Весткі пра светлагорскую бяду перавярнулі свядомасць многіх, хто па розных прычынах меў падставы баяцца за сваё здароўе. Думка, што бяда магла здарыцца, а ты пра яе нават не падазраеш, прымушала людзей насіцца па розных паліклініках, спадзеючыся прайсці абследаванне, пагружала ў дэпрэсію, калі само існаванне палохала болей, чым самы суровы дыягназ. Але стоп! Усяго толькі адзін аналіз можа рассеяць самыя страшныя падазрэнні. У ананімным кабінеце працуюць урачы і медсёстры, якія ведаюць твар бяды, таму што доўгія гады займаюцца тым, што імкнуцца яе распазнаць.

— Апошнім часам кабінет ананімнага абследавання проста захліснула хваля жадаючых прайсці тэст, — расказвае медсястра Зоя Георгіеўна Даманава. — Такім чынам праз наш кабінет было выяўлена 5 ВІЧ-інфіцыраваных наркаманаў-мінчан. Гэта гаворыць аб тым, што ёсць сувязь паміж наркаманамі Светлагорска і Мінска, ды і іншых гарадоў, хутчэй за ўсё. Проста ў вялікіх гарадах гэта ўсё хаваецца глыбей, тут болей магчымасцей для тых жа наркаманаў зняць ломку ў прыватных кансультантаў, за грошы ўсё можна. Але асабіста мне душа баліць таму, што сюды прыходзяць практычна нашы дзеці. Як можна глядзець на 14-гадовага хлопчыка, у якога на руках сляды ад уколаў?

Між іншым, тут не імкнуцца лезці ў душу, а тым больш чытаць натацыі. Урачы Цэнтра прафілактыкі СНІДу адкідваюць у рабоце лішнія эмоцыі і падыходзяць да справы па-жыццёваму мудра. Калі бяда дзесьці побач, то трэба ёй процістаяць. Таму кожны наркаман атрымлівае ў ананімным кабінеце бясплатна прэзерватыў і два шпрыцы, не гаворачы пра памяткі з інфармацыяй пра СНІД.

У ананімны кабінет Рэспубліканскага цэнтра прыязджаюць людзі з розных куткоў Беларусі — баяцца, што да іх тайны ў родным горадзе не аднясуцца беражліва. А ў Рэспубліканскім цэнтры краіны канфідэнцыяльнасць — галоўны прынцып работы. Таму што за кожным чалавекам — лёс не толькі яго, але блізкіх, родных, дзяцей.

І ўсё ж такі калі такое здарылася?.. Папершае, урачы тут не выконваюць ролю суддзі. Па-другое, сам па сабе вынік аналізу яшчэ не азначае прыгавор.

— Здараецца, што рана ці позна пасля серыі праведзеных аналізаў прыходзіцца паведаміць чалавеку непрыемную праўду, — распавядае урач Уладзімір Зялюткін, — Але гэта ніколі не гучыць як смяротны прыгавор. Чалавека паступова пераконваюць у тым, што СНІД і ВІЧ-інфекцыя — розныя рэчы. Праходзіць час, перш чым ён усведамляе, што з'яўляецца «здаровым вірусаносьбітам», а калі пры гэтым яшчэ паціснеш руку, ён выходзіць адсюль упэўнены, што жыццё не скончана.

Пройдзе час, перш чым чалавек пачне разбірацца ў тонкасцях — што азначае вірусаносьбіцтва, што сама хвароба СНІД. Да таго часу, калі сапраўды можа грымнуць гром, чалавек прывыкае жыць са СНІДам. Вядома, тут болей за ўсё рады адказаць па тэлефоне: «У вас усё ў парадку».

Толькі ці ўсё ў парадку ў краіне? І так поўна розных праблем, рознай навалы, якую цяжка адолець. А тут яшчэ гэтая... Так, яна не такая заўважная, як сацыяльныя ці палітычныя. Злы дэман ходзіць ціха. Ён можа пастукаць у любое акенца — адной сям'і, горада ці краіны яму не хапае. І наўрад ці наша грамадства так хутка зможа прывыкнуць да думкі, што ён дзесьці побач. На гэта пойдуць гады. А разам з імі ад нас пойдуць людзі. Незаўважна.

Адчувальна...

**Ларыса ЦІМОШЫК.**

## НАРОДНЫ КАЛЯНДАР

# СНЕЖАНЬ

**У народзе лічылі, што па снежню раўняліся зіма і лета. Будзе снежань сухі — і яны будуць сухія, а выдасца цёплы — дык і лета будзе такое ж: «У снежні адкрытае вуха — летам горача і суха».**

**4. Увядзенне.** «Увядзенне прыйшло — зіму прывяло». Як зіма павядзе сябе ў гэты дзень, такая яна ў асноўным уся і будзе. Прадугледжвалася магчымае пацяпленне: «Увядзенне разбівае ледзенне».

**7. Кацярына.** «Прыйшла Кацярына — прыйдзе і пярына. Дзяўчаты варажылі на суджанага.

**9. Юр'я зімовы.** «Ёсць на свеце два Юр'і і абодва дурні: адзін халодны, а другі галодны», «Колькі на зімовага Юр'я снегу, столькі на вясновага — травы». Абодва Юр'і лічацца апекунамі хатняй і лясной жывёлы, толькі зімовы Юр'я рабіў зусім адваротнае: «Зімовы Юрай адмыкае раты ваўкам», г. зн. з гэтага дня крыважэрныя ваўкі пачынаюць хадзіць зграямі і нападаць на скаціну. У дзень зімовага Юр'я падстрыгалі грывы і хвасты коням.

**13. Дзень святога Андрэя** быў адметны варажбою дзяўчат, прымеркаванай менавіта да яго. «Высявалі» насенне канапель ці льну ў пасцелі, ля калодзежа або наградах. Уяўнае высяванне было не выпадковае — дастаткова прыгадаць, што вясною, 28 красавіка, таксама ў дзень Андрэя, звычайна сеялі каноплі. Само дзеянне варажбітак — сяўба — насіла сімвалічны характар: як засеянае павінна ўзысці, так і загаданае павінна збыцца: «Святы Андрэю, я каноплі сею, дай мне знаць, з кім буду рваць».

Прыслухоўваліся, як паводзіць сябе вада ў калодзежах: калі ціхая — на добрую зіму, калі шуміць — маразы, завірухі і буры разгуляюцца.

**14. Навум**. «Навум наставіць на вум». З гэтага дня імкнуліся вучыць дзяцей грамаце, спадзеючыся, што яны, дзякуючы Навуму, лепш засвояць навуку.

**17. Варвара.** «Варвара ноч урвала, дзень прытачыла» — паступова пачынае прыбываць дзень. Другое сугучнае выкарыстанне імя Варвары ў прымеце: «Прыйдзе Варвара, маразы і заварыць». Цёплае надвор'е на Варвару прадказвала добры ўраджай ільну летам.

**19. Мікола зімовы.** Менавіта ён лічыцца пачынальнікам сапраўднай зімы: «Да Міколы няма зімы ніколі». Мікола як бы адкрываў пэўны сезон: «Мікола зімовы — сапраўдная зіма, Мікола летні — сапраўднае лета». Затрымка зімы на Міколу была знакам, што маразы прыйдуць няскора і наогул уся зіма будзе «бяспутная».

Мікола зімовы быў далучаны земляробамі і да будзённых гаспадарчых разлікаў і прагнозаў: «Беражы сена ад Міколы да Міколы і не бойся зімы ніколі» — гарантавала прыказка.

**25. Каляды па календары каталіцкай канфесіі.**

СВЕТАГЛЯД

# Цвікі, ніткі і іншыя вынаходкі прафесара Браніцкага



***«Вы спачатку паглядзіце на тое, пра што мы будзем гаварыць, — параіў гаспадар кабінета. — Пэўна, ніколі такога не бачылі».— «Чаму не бачыла, — хацелася запярэчыць. — Нешта вельмі падобнае на звычайныя каляровыя аплікацыі». Але не запярэчыла, бо карціны, што вісяць на сценах, сапраўды падобныя на каляровыя мазаікі з тканіны ці паперы на чорным фоне, былі незвычайна аб'ёмныя і... нібы паветраныя. Заставалася толькі здагадвацца, з чаго ж яны зроблены. «А вы падыдзіце бліжэй, — сказаў мне іх аўтар. — Нічога незвычайнага тут няма». Сапраўды, нічога незвычайнага... Маленькія бліскучыя густа набітыя цвікі, а на іх нацягнуты тонкія шаўковыя ніткі розных колераў і адценняў... Сюжэты ў работ — нейкія касмічныя, падобныя на малюнкі сюррэалістаў ці абстракцыяністаў. Што, дарэчы, вельмі пасуе да вялізнага партрэта Мендзялеева, які вісіць у гэтым афіцыяльным кабінеце на самым што ні ёсць «правадырскім» месцы. «Думаю, што Мендзялееў не пакрыўдзіцца за такую аздобу», — усміхнуўся гаспадар. Вядома, не пакрыўдзіцца, але ўсё ж... Нічога тут, здаецца, няма ад майстэрні мастака, хіба што гатовыя работы, але нешта не ўпісваецца ў гэты афіцыяльны кабінет, хаця даводзілася бачыць і іншыя падобныя кабінеты, аздобленыя з нашмат большым размахам. Цяпер здагадваюся: мне не давала тады спакою шыльда на дзвярах кабінета. Хацелася выйсці і пачытаць яе яшчэ раз, але разумела: усё роўна прачытаю тое самае, што перачытала некалькі разоў за тыя колькі хвілін, што чакала гаспадара: «Дэкан хімічнага факультэта БДУ, прафесар, доктар хімічных навук Генадзь Аляксеевіч Браніцкі»... Неяк не пасуюць гэтыя пасады і званні да тых «паветраных» карцін, што вісяць на сценах кабінета, аўтар якіх той жа самы чалавек...***

Доўга думала, перад тым як пісаць, як жа назваць тое, чым займаецца Генадзь Аляксеевіч. Можа, хобі, ці, калі па-беларуску, захапленне? Так, бо хобі — у самым трывіяльным сэнсе — гэта тое, чым чалавек любіць займацца ў вольны ад асноўнай работы час. Але яшчэ са школьных гадоў прывыкла разумець пад гэтым замежным словам калекцыяніраванне марак і паштовак ці лоўлю рыбы на якога-небудзь арыгінальнага жыўца... А тут жа чалавек праяўляе сябе перш за ўсё як творца, як стваральнік... Можа, мастацтва, арыгінальная творчасць? І так нельга сказаць адназначна, бо ў майго героя ёсць асноўная праца, у якой няма нічога агульнага з яго карцінамі, у якой нават фантазіі адразу ператвараюцца ў формулы і лічбы, якой аддаецца больш часу, якая таксама — любімая. А можа, у чалавеку проста дзесьці на пачатку сталага жыцця загінуў мастак, і цяпер такім чынам ён хоча дагнаць тое, што ўпусціў, хоць на нейкі час забыцца аб свеце дакладнасцей і адчуць сябе самім сабой? (Іменна так чамусьці ўяўлялася дзіўная на першы погляд метамарфоза фізіка ў лірыка...) Таму пытанне, з якога пачала размову, сфармулявала прыкладна так: ці не стала праца ў галіне хіміі прычынай такога незвычайнага захаплення? Можа, гэта матэрыялізуецца жаданне хоць у вольны час забыцца пра «хімічныя» праблемы?

— Так, калі б не хімія, я не стаў бы займацца гэтым, — адказаў Генадзь Аляксеевіч. «Ну вось, усё так, як і думала», — з палёгкай уздыхнула. І, як аказалася, паспяшалася. Бо навуковец-мастак (думаю, спадар Браніцкі даруе мне гэта, як, здаецца, найбольш трапнае словазлучэнне) патлумачыў далей, што сваю асноўную працу вельмі любіць, але дзякуючы іменна ёй надарыўся выпадак пазнаёміцца з незвычайным мастацтвам...

Дваццаць гадоў таму Генадзь Браніцкі трапіў у Лондан на сапраўдны хімічны кангрэс па каталізу. У вольны ад пасяджэнняў час малады вучоны пайшоў прагуляцца па англійскай сталіцы, прыхапіўшы з сабой фотаапарат. Трапіў на вядомую Кенсінгстон-стрыт, дзе самадзейныя ўмельцы выстаўлялі на паказ і на продаж свае вырабы. Сярод стракатасці і разнастайнасці выхапіў вачыма хлопца з доўгімі валасамі, які граў на гітары і прадаваў вялікія незвычайныя карціны, якія пераліваліся на сонцы, бо былі зроблены з тонкай гітарнай струны, нацягнутай на цвікі... Сфатаграфаваў такое дзіва на памяць — вельмі ўразілі карціны. А прыехаўшы дадому, праявіўшы і зрабіўшы фотаздымкі, вырашыў паспрабаваць сам. Нічога не атрымалася: струна не слухалася, закручвалася не ў той бок, вязалася ў вузельчыкі...

А праз год Генадзь Аляксеевіч трапіў у Амерыку. На стажыроўку, якая датычылася прымянення тэстаў у хіміі для кантролю ведаў студэнтаў... У прыватнай гутарцы з адным амерыканскім прафесарам прыгадаў чамусьці тыя лонданскія карціны і свае няўдалыя спробы паўтарыць іх. Вынікам згадкі стаў падарунак амерыканцаў — тоненькая брашурка, якая тлумачыла, як навучыцца рабіць самыя простыя выявы з цвікоў і шаўковых нітак...



Тоненькай кніжачкі было дастаткова, каб чалавек захапіўся па-сапраўднаму. Седзячы на нудных партыйных сходах, Генадзь Аляксеевіч не чытаў газеты, як суседзі, а маляваў на паперы, стараючыся авалодаць «азбукай». «Гэта сапраўды як азбука. Ці як табліца Мендзялеева. Галоўнае — ведаць усе літары ці элементы. І тады напішаш любое слова ці формулу любога рэчыва. Так і ў гэтай справе». А потым, калі ўсе «літары» вывучыў — працей простага: малюнак на паперы — да чорнай матэрыі, па ім — цвічкі набіць, паперу зняць, ніткі на цвікі нацягнуць... І ўсё. Якое ж тут мастацтва?

Але... Два пункты на плоскасці злучаюцца прамой... Паміж двума цвікамі можна нацягнуць толькі прамую нітку. А на яго карцінах — дзіўныя незвычайныя птушкі ляцяць ля круглага, з выцягнутымі промнямі сонца. А ў феі — карона, нібы арэол. І яшчэ на яго работах жывуць матылькі, сава, певень... Ці ж гэта не мастацтва — ператвараць прамыя лініі ў жывыя вобразы? Калі нават не ўлічваць, што амаль усе гэтыя вобразы — параджэнне ўяўлення аўтара...

Нядаўна Генадзь Аляксеевіч выдаў кніжку, якая называецца «Карціны з нітак і цвікоў». Кніжка на рускай і беларускай мовах, з фотаздымкамі і малюнкамі. Кожны, хто жадае заняцца незвычайным мастацтвам, можа авалодаць ім па гэтай кнізе. Але яе слаба бяруць у продаж: кнігарні тлумачаць тым, што з-за нізкай якасці друку яна не карыстаецца попытам... Думаецца, такому дапаможніку ўзрадаваліся б настаўнікі працы і кіраўнікі гурткоў. «Чаму б не распаўсюдзіць выданні ў школах і палацах школьнікаў?» — не разумее яго аўтар. Я таксама, шчыра кажучы. У нас наогул многае цяжка зразумець... Нядаўна ў Пушкінскай бібліятэцы прайшла выстава работ Генадзя Браніцкага. Яшчэ адна хутка будзе ў музеі мінералаў на геафаку БДУ, у які наведваецца шмат школьнікаў сталіцы. А падчас нашай размовы пазваніў калега Генадзя Аляксеевіча і сказаў, што нямецкія вучоныя, прадстаўнікі фармацэўтычнай фірмы, якія былі ў Мінску і бачылі работы Браніцкага, захапіліся ідэяй наладзіць яго выставу ў Германіі. «Выходзім на міжнародны ўзровень», — жартуе дэкан хімфака.

І ўсё ж падчас усёй размовы не давала мне спакою неадпаведнасць хіміі як навукі і карцін з нітак і цвікоў.

*— Не перашкаджае захапленне працы?*

— Не. Я займаюся гэтым у вольны час. А вольны час ёсць заўсёды і ў кожнага. Застаецца толькі выбраць: паглядзець у гэты час тэлевізар, пачытаць газету ці заняцца чым-небудзь карысным...

*— Ці не прыходзіла ў галаву стварыць з нітак і цвікоў што-небудзь «хімічнае» — мадэль атама, скажам?*

— Не. Наогул паміж хіміяй і гэтым мастацтвам ніякай аналогіі не праводжу. Адзіная магчымая аналогія: і там, і там створаныя элементы служаць для стварэння далейшай карціны...

А нядаўна ў Генадзя Аляксеевіча з'явілася яшчэ адно захапленне — мастацтва тэмары — рознакаляровыя шарыкі з аплікацыямі з каляровых нітак. Пакуль прафесар Браніцкі асвойвае першыя крокі ў гэтым старажытным японскім мастацтве. Першыя спробы дзеда вельмі падабаюцца яго маленькай унучцы Алесі. «Я люблю ўсё незвычайнае», — гаворыць Генадзь Аляксеевіч.

Дарэчы, пра незвычайнае. Доктарская дысертацыя прафесара Браніцкага была прысвечана вывучэнню заканамернасцей утварэння фатаграфічнага адлюстравання. На аснове даследаванняў Генадзя Аляксеевіча і яго калег былі створаны фотаматэрыялы, якіх не існуе ў прыродзе. Карацей, калі тлумачыць абывацельскай мовай: на чорна-белай плёнцы і на чорна-белай фотапаперы можна атрымаць каляровае фота. Не ў натуральных колерах, а ў якіх пажадаеш. Сярод карцін навукоўца-мастака вісіць такое фота. Нібы нейкаму невядомаму майстру ўдалося сфатаграфаваць рамонкі самым-самым прыцемкам. Зялёна-карычневыя лісты, пялёсткі не белыя, а з нейкім адценнем наступаючай цемры. Карціна прыгожа-рэальная. І незвычайная. А побач — медаль ад амерыканскага фатаграфічнага таварыства за такую вынаходку...

Пакуль сядзела ў кабінеце дэкана, уяўляла сябе на месцы студэнта хімфака, якога выклікалі «на кавёр». Не, зусім не страшна: добры твар дэкана, а на сценах — «паветраныя» карціны, падобныя на палотны сюррэалістаў ці абстракцыяністаў... Не, зусім не страшна.

На працоўным стале — спісы, ведамасці, аркушы, спісаныя формуламі для будучых эксперыментаў. А на падаконніку, у плеценым кошыку — каляровыя шарыкі — таксама першыя эксперыменты... І адно другому зусім-зусім не перашкаджае.

Можа, так і ўсё астатняе ў гэтым жыцці быць павінна?

**Алена ЛЯЎКОВІЧ.**

НА ЗДЫМКАХ: Генадзь БРАНІЦКІ і яго работы. Вядома, на фота немагчыма цалкам перадаць іх «паветранасць» і гаму колераў...

**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**



---

**Іван ПРАКАРЫНА**



### Не паранься недаверам

*Плыве турботамі жыццё,*
*І ў неспазнанай кругаверці*
*Зыходзіць наша пабыццё*
*З каронай шчасця, ці то смерці.*
*А сэрца — маятнік душы,*
*За амплітуду не гушкайся,*
*Лепш пашукай сябе ў цішы,*
*Ды недаверам не паранься.*
*Знямоглы дзень, знямоглы час*
*Сонцам стаіць, як пакаянне,*
*І рве хамут сівы Пегас,*
*Бы закаханы на спатканне.*

### Ах, жанчыны!

*Іх погляд, як пярсцёнак,*
*Заручыць нават мары,*
*Не дасць святой надзеі*
*І тайнаю застыць.*
*Так пачуццём шчымлівым*
*Душа спярша зашкаліць,*
*А потым страпянецца*
*Спадвечнай смагай — жыць!*

### Асенняя кветка

*У фарбах асенняга лісця*
*Твой тварык лагодны знайшоўся,*
*І погляд, з якога я ўпіўся,*
*І дотык, з якога зайшоўся.*
*Трымцела ў спакусе сэрца,*
*Купалася ў марах вясновых...*
*Звязалася, што ж, хай тчэцца*
*Каханне на кронах новых.*
*Бываюць імгненні і годы,*
*Душой галасую за першыя.*
*Расстання цень прахалоды*
*Надзеяй узыйдзе лепшаю.*

### Трывога

*Гамоняць магілы і продкі пяюць*
*Самотную, ціхую песню...*
*З такім засмучэннем туманы плывуць*
*Ў чароўным і кволым прадвесні.*
*Збягае слязою світанак расы,*
*Бо стронцый багата пацее.*
*З пяшчотнай надзеяй глядзяць верасы,*
*Хоць хмара жыцця маладзее.*
*Святкуе надзея амаль без святла,*
*Пакутуе розум, сівее.*
*Скупое імгненне скупога цяпла*
*Нядобраю мараю спее.*
*Развага такая: быў сон як прарок —*
*Сябе неахайнасцю нішчым,*
*Хварэюць нітратамі поле, мурог,*
*Трывога мяжуе з зацішшам.*

г. Капыль.

---

*СТРАКАТАЯ МАЗАІКА*

### ЗА ШЛЮБ БЕЗ БРАКУ

Заключаюцца шлюбы, як вядома, на нябёсах, але вось рэгіструюцца на зямлі — і органам, якія іх рэгіструюць, хочацца, каб кожны новы саюз быў доўгім і шчаслівым. Хоць бы для паляпшэння статыстыкі.

А правяраць трываласць пачуццяў маладых можна па-рознаму. Вось улады нарвежскага горада Сарпсбарг, напрыклад, патрабуюць — з XIII стагоддзя — ад маладых правесці перад вяселлем 48 гадзін прыкаванымі адзін да аднаго наручнікамі. На думку мэрыі Сарпсбарга, калі маладажоны з гонарам вытрымаюць крытычныя двое сутак, ім ужо нічога не страшна.

А традыцыі кітайскай правінцыі Хэпань — іншыя. Звычай, які там існуе, забараняе жаніху мыцца на працягу трох дзён да вяселля і яшчэ адзін — пасля яго.

Сутнасць тая ж: вытрымае пара гэта выпрабаванне, вытрымае і ўсё астатняе...

*Па старонках часопіса «Вокруг света».*

---

*БЫВАЕ Ж ТАКОЕ!..*

## НУ, ВОЖЫК, ПАЧАКАЙ!

Даярку саўгаса «Будагова» Смалявіцкага раёна Настассю Філіповіч, што жыве ў вёсцы Тачылішча, кожны раз разбірала злосць і ў той жа час апаноўвала нейкая разгубленасць. Заходзіла жанчына ў пуню, каб выбраць з курынага гнязда яйкі, а знаходзіла там толькі пустыя шкарлупіны з невялікімі дзірачкамі ў іх збоку. Які ж гэта злодзей панадзіўся наведвацца сюды ды ласавацца яйкамі? Аднойчы, калі ўжо змяркалася, гаспадыня таксама хацела ўзяць некалькі яек на вячэру. Рыпнула варотамі, увайшла ў пуню, пачала шукаць у гняздзе і, войкнуўшы, імгненна выхапіла руку — наткнулася на вострыя калючкі. Пацікавілася, аб што так моцна ўкалолася, і зайшлася смехам. Аказваецца, вожык адкінуўся на спінку, а ў пярэдніх лапках трымаў яйка, якое з асалодай смакаваў. Жанчына пляснула па пысе, выбіла недапітае яйка.

Ад нечаканай сустрэчы вожык аслупянеў. Яго недарэчная поза ўсцешыла Насцю. Яна схапіла дубец і давай лупцаваць няпрошанага госця. Потым узяла калючы клубок у прыпол і панесла за ваколіцу, дзе выкінула яго ў лазовы куст.

Назаўтра прыгадала гэтае здарэнне, і стала шкада звярка. Можа, дарэмна загубіла небараку? Пабегла да лесу, пачала шукаць у суседніх кустах. Няма вожыка, відаць, ачуняў і збег. Адлягло ад сэрца.

Вартаўнік саўгаса, сямідзесяцігадовы Сцяпан Грышкевіч, даўні і надзейны сябар суседкі, пацвердзіў: вожык за курынымі яйкамі ўзбіраецца па сцяне нават на гарышча. І сапраўды, чым ён рызыкуе, калі сарвецца і шмякнецца на зямлю? Шыю, галаву не скруціць. Нездарма ў народных казках гэтага звярка паказваюць мудрым і знаходлівым.

**Аляксандр ДЗЕРАВЯНКА.**



ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 94665. Індэкс 63850.
Зак. № 7588.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12